Музей працуе → 3



# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960 NR INDEKSU 366714

Тупання праця → 9



http://niva.iig.pl
redakcja@niva.iig.pl

№ 18 (2920) Год LVII | Беласток, 29 красавіка 2012 г. | Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)

# Божы голас званоў

Тэкст і фота
Мацея ХАЛАДОЎСКАГА

**Дваццацёра ўдзельнікаў з Польшчы, Беларусі, Украіны і Расіі прыняло ўдзел у сёлетнім, чацвёртым ужо фестывалі званарства „Абвяшчае, усхваляе, склікае" ў Супрасльскім манастыры Благавешчання Прасвятой Багародзіцы. Ад мінулага года ў конкурсных змаганнях прымаюць удзел званары з замежжа. У той час было іх адносна няшмат у параўнанні з лікам званароў з Польшчы, а асабліва з Падляшша. Сёлета ў другім, апошнім этапе трохдзённага фестывалю-конкурсу апынулася дзесяць асоб і толькі адзін прадстаўнік з Польшчы, дакладна з Беластока. Найбольш званароў, якія дайшлі да гэтага этапу, было з Беларусі.**



Журы сёлетняга выпуску фестывалю старшыняваў архімандрыт Супрасльскага манастыра а. Андрэй Баркоўскі. У яго склад уваходзілі ўжо традыцыйна: праф. Мікалай Завялаў, выдатны тэарэтык, практык і настаўнік званарскай справы з Масквы, які сам займаецца званарствам ад дваццаці гадоў, ды Віялета Бялецкая, педагог, дырыжорка Падляшскай оперы і філармоніі. Крыстына Ставэцкая, кіраўнік Музея ікон у Супраслі (разам з Супрасльскай акадэміяй і Фондам „Oikonomos", адзін з арганізатараў фестывалю) гаварыла „Ніве":

— Сёлетні фестываль вылучаецца двухчастковасцю слуханняў. Пачалі мы першага дня (20 красавіка) ад адборачных слуханняў, да якіх прыступілі ўсе ўдзельнікі, значыць, васемнаццаць чалавек, у тым ліку чатырнаццаць з замежжа — дзевяць з Беларусі (м.інш. з Мінска, Брэста і Пінска — М. Х.), чатыры з Расіі і адна з Украіны. На другі дзень вылучаных дзесяць фіналістаў змагаліся за адну галоўную ўзнагароду і два вылучэнні. Прыкметай было таксама тое, што прыехала да нас жанчына з Луцка, якая прадстаўляе ўкраінскую традыцыю званарства. Гэта першы ўкраінскі ўдзельнік ад пачатку існавання агляду. Наш фестываль стаў ужо вядомым у колах званароў у свеце. Званары самі да нас заяўляюцца. Сёлета атрымалі мы 29 заяў, але не ўсе ахвотныя даехалі.

Сярод адабраных да фіналу дзесяці званароў палову склалі жанчыны. Размаўлялі мы з парай маладых званарак з Мінска, якія адукуюцца ў тамашняй званарскай школе пры патрыярхальным упраўленні, дзе вучоба працягваецца некалькі месяцаў і па-за пазнаннем сакрэтаў дабывання гукаў са званоў выкладаюцца таксама прадметы звязаныя з праваслаўнай літургіяй. Кацярына Агароднікава:

— Званарства гэта мастацтва. Аднак звон гэта перш за ўсё Божы голас, свайго роду малітва ды склікванне на розныя святы.

Ірына Філімовіч:

— Гэта перш за ўсё зварот да Госпада, да якога можна звярнуцца не толькі пры дапамозе слоў, але таксама і духоўнай музыкі. Я займаюся званеннем, як Каця, нядаўна, ды хацела б рабіць гэта як найдаўжэй, каб як найдаўжэй такім чынам служыць Богу.

Кацярына Агароднікава:

— Званароў адрознівае тэхніка звонення. У кожнага яна ўласная. З захапленнем глядзелі мы ў першы дзень фестывалю як звоняць польскія званары, якія карыстаюцца таксама ступнямі. У нас звоняць галоўным чынам пацягваючы рукамі за вяроўку. Найважнейшым з'яўляецца рытмічная перадача гуку, прытым пры дапамозе амаль усяго цела.

Ірына Філімовіч:

— Штодзень практыкуемся на адным зване (на званіцы Супрасльскага манастыра вісіць восем званоў — М. Х.). Дзяўчатам, напэўна, цяжэй званіць чым мужчынам, таму што патрабуе гэта вялікай сілы.

Павел Хомчык з прыхода Агія Сафія ў Беластоку — адзіны званар з Польшчы, які кваліфікаваўся ў фінал (штодзень ён практыкуецца на супрасльскіх званах, прымаў удзел у папярэдніх выпусках фестывалю), сказаў нам:

— Я званю ўжо дзесяць гадоў. Стараюся змяняць, паляпшаць сваю тэхніку і развівацца. Сістэма даставання гукаў з супрасльскіх званоў змяняецца на больш „папулярную", бліжэйшую ўсходняй.

Архімандрыт Андрэй Баркоўскі прыгадаў:

— Царкоўны звон перш за ўсё склікае на малітву, супольную малітву. Малітва найлепшая, калі яна супольная.

Прафесар Мікалай Завялаў у размове з „Нівай" тлумачыў:

— Ацаняючы званароў звяртаем увагу, між іншым, на ўзровень музычнай выразнасці і дынаміку. Званар мусіць паказаць сваю індывідуальнасць, паказаць асабістую культуру. Найбольшая памылка званароў, асабліва маладых, у тым, што можна назваць жартам „дзіцячаю хваробай". Чалавек захоплены званеннем лішне спяшаецца, паскорвае дынаміку, часта нават не можа справіцца з уласным тэмпераментам. Вядома, ад гэтага церпіць гучанне звана. Гэткая празмерная азартнасць у званароў.

Прафесар Завялаў, захоплены званамі Супрасльскага манастыра, дадаў:

— Прыгажосць супрасльскіх званоў у тым, што калі пачынаюць званіць, чуецца паміж імі гармонія.

У другі дзень фестывалю, у час якога наступіла яго афіцыйнае адкрыццё, архімандрыт а. Андрэй Баркоўскі пасвяціў два новыя, невялікія званы, якія будуць павешаны на званіцы манастыра ў месца падобных, але ўжо зношаных. Несумненна, паўплывае гэта на змену сістэмы даставання гукаў, аб якіх успамінаў Павел Хомчык.

Лаўрэатам сёлетняй узнагароды стала Ксенія Кіянцава з Санкт-Пецярбурга. Вылучэнні атрымалі Надзея Калашнікава з Санкт-Пецярбурга і Сяргей Нікіценка з Мінска.



9 770546 196000



# Дзяржаўныя даўгі

У прайшоўшыя велікодныя дні мы цешыліся з нагоды не толькі Уваскрэсення Збаўцы, але і з таго, што Андрэй Саннікаў, былы кандыдат у прэзідэнты нашай дзяржавы, нарэшце выйшаў на волю і змог сустрэць вялікае свята са сваёй сям'ёй. Вызвалілі з турмы і Зміцера Бандарэнку — блізкага паплечніка Саннікава. Радасць усіх нармальных людзей у такой сітуацыі зразумелая і натуральная. Аднак дзякаваць дзяржаўнай уладзе няма за што. Дзяржава яшчэ вельмі шмат вінна персанальна Андрэю Саннікаву, яго сям'і, усім грамадзянам, якія аддалі свае галасы за гэтага кандыдата на вышэйшую ў краіне пасаду. Гэтыя галасы былі растаптаны 19 снежня 2010 года на пляцы ў Мінску, прычым каваныя боты амапаўцаў білі не толькі па целе палітыка Саннікава і іншых удзельнікаў Плошчы, яны білі па грамадзянскай годнасці ўсёй нацыі. Дзяржава вельмі шмат вінна і Зміцеру Бандарэнку, які ў турэмных засценках, пакутуючы на сур'ёзную хваробу спіны, ледзь не стаў інвалідам.

У нашай радасці з-за вызвалення Саннікава і Бандарэнкі мы не маем права забывацца, што сталася галоўнай прычынай таго, што іх урэшце выпусцілі з вязніцы. А галоўнай прычынай стала пагроза ўвесці ўрэшце міжнародную супольнасцю эканамічныя санкцыі супраць дзяржаўных прадпрыемстваў і бізнэсу, які выгадаваны уладай і яе ж жывіць. Менавіта гэты фактар, бо ўжо ніхто не верыць у міласэрнасць і спагаду беларускай дзяржавы. Не маем права забывацца пра тое, што паважаных людзей несправядліва засудзілі, амаль паўтара года трымалі ў турмах у жорсткіх умовах, здзекаваліся і праўдападобна каталі. Хто кампенсуе слёзы іх маці за гэты перыяд, хто верне пераживанні і здароўе жонак, разлуку малога сына з бацькам, усе вялікія маральныя і матэрыяльныя страты гэтых сем'яў?! Такія рэчы не праходзяць бясследна і пра іх не можна забывацца.

Дзяржава застаецца вельмі шмат віннай Андрэю Саннікаву і Зміцеру Бандарэнку! Гэтак сама вінна яна і іншым палітвязням, якія ўжо выйшлі на волю, альбо застаюцца за кратамі. І таму дзяржаве няма за што дзякаваць! Яна павінна яшчэ вызваліць шэраг выдатных людзей, сапраўдных патрыётаў нашай Беларусі: Алеся Бяляцкага, Зміцера Дашкевіча, Сяргея Каваленку, Міколу Статкевіча, Паўла Севярынца, іншых рэпрэсаваных. А пасля цалкам і абсалютна рэабілітаваць усіх фальшыва засуджаных, зняволеных за тое, што яны рэалізоўвалі свае канстытуцыйныя і выбарчыя правы.

Тое, што Саннікаў выйшаў на волю, значыць яшчэ не так шмат. На яго ў кожны момант можа быць уведзены прэвентыўны нагляд. Ажно 8 гадоў ён будзе істотна абмежаваны ў правах, у тым ліку і ў праве балатавацца на выбарах і быць абраным. Памілаванне са здыманнем судзімасці прадугледжана заканадаўствам, але апошняе пакуль не зроблена і спадзяванняў на гэта мала ці няма зусім. Больш таго, дзяржаўны правадыр мае дубінай і пагражае вярнуць вызваленых зноў у турмы. Маўляў, хай трымаюць язык за зубамі, я і так вялікую ласку зрабіў. А не — то праз пару гадзін апынуцца за кратамі. А некаторых былых палітвязняў зноў па надуманых прычынах прыцягваюць да крымінальнай адказнасці. Так што пра нейкую палітычную адлігу гаварыць заўчасна. Па-ранейшаму „над краінай хмары-хмары", па-ранейшаму палітычны змрок і цемрашальства.

Сучасная Рэспубліка Беларусь любіць нагадваць грамадзянам пра іх даўгі і абавязкі. Але мала якая дзяржава столькі павінна сваім насельнікам, як сённяшняя. Яна запазычыла за мінулае, яшчэ савецкае, якое яна культывуе і ўсяляк рэанімуе. Яна вінна за сённяшняе, калі большыня маладых людзей уцякае з краіны, а прадстаўнікі старэйшага пакалення не могуць дазволіць сабе элементарных жыццёвых рэчаў. Яна забірае і будучыню, заганяючы людзей у прыгонную сістэму татальнага падпарадкавання, узмацняючы рэпрэсіўную сістэму, уводзячы чужыя парадкі, падаўляючы іншадумства і топчучы канстытуцыйныя правы грамадзян, падзяліўшы іх на сляпых выканаўцаў сваёй злой волі і „ворагаў народа". Такой дзяржаве няма за што дзякаваць…

**Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

# Драматычнае шчасце



Дванаццатага чэрвеня 1923 г. у ваколіцах Гайнаўкі забілі Юзафа Балаховіча, брата Станіслава Булак-Балаховіча, былога правадыра Народнай добраахвотніцкай арміі, у большасці ўзмоцненай сібірскімі казакамі і недабіткамі „белай" арміі. Крымінальнай паліцыі ўдалося вызначыць непасрэдных забойцаў. Мелі быць імі камуністычныя агенты, польскія грамадзяне з беларускай меншасці, кажуць, звязаныя з Беларускай сялянска-работніцкай грамадой, якая мела нават свой сеймавы клуб у польскім парламенце. Тут прыгадаю, што палітыка маладой польскай дзяржавы да тае пары была досыць прыязная меншасцям. Неўзабаве, аднак, яна радыкальна змянілася. Ва ўсякім выпадку эскалацыя напругі паміж Польшчай і Савецкім Саюзам не спрыяла ліберальнай нацыянальнай палітыкі. Тым больш, што актыўнасць бальшавіцкай разведкі, асабліва на польска-савецкім памежжы, узмацнялася. Пры нагодзе ліквідавалі ідэалагічных ворагаў. Заказ на забойства Станіслава Балаховіча даў III Камуністычны інтэрнацыянал, а дакладна савецкая разведка. Выпадкам забіты быў ягоны брат Юзаф. Не быў гэта, аднак, ані першы, ані апошні акт злачыннай дыверсіі бальшавікоў. У раёне Гайнаўкі дахodзіла да таямнічых забойстваў. Іх ахвярамі былі ў большасці колішнія жаўнеры „бацькі" Станіслава Балаховіча. І гэта ён быў галоўнай мішэнню савецкай агентуры.

Гэты афіцэр царскай арміі з беларускім радаводам, пасля кароткачасовага флірту з бальшавікамі, пасля моцна надакучыў былым таварышам. Адважна біўся ў эстонска-савецкай вайне, за што атрымаў павышэнне да рангу генерал-маёра. Пасля заключэння паміж бакамі мірнага трактата, шалёным рэйдам праз варожыя пазіцыі прарваўся ён са сваім атрадам з Эстоніі ў Польшчу. Зброі не склаў. Прыняў удзел у польска-бальшавіцкай вайне 1920 года, а пасля аб'яўлення перамір'я надалей кусаў і грыз „чырвонага кныра". Самавольна прарваўся нават у частку Беларусі занятую саветамі і, здабыўшы горад Мазыр, аб'явіў 10 лістапада 1920 года ўстанаўленне Рэспублікі. Неўзабаве, аднак, бальшавіцкае контрнаступленне змяло нованароджаную дзяржаву з палітычнай карты свету, а Балаховіча прагнала ў Польшчу, дзе застаўся разам са сваімі жаўнерамі — як непакорлівы саюзнік — інтэрнаваны. Такім чынам „адважны бацька" закончыў вайсковую кар'еру. Не адмовіўся, аднак, ад палітычнай дзейнасці. Гэта дзякуючы ягоным захадам частка інтэрнаванай арміі атрымала дазвол на пасяленне ў раёне Белавежскай пушчы. У Белавежу, Чаромху, Нараўку і іншыя пушчанскія мясцовасці прыбыло больш за дзве тысячы былых жаўнераў, нярэдка з сем'ямі. Балаховіч стаў іх нефармальным камандзірам. Ён таксама сарганізаваў ім працу пры лясных работах. У выніку тайных інструкцый „балахоўцы" мелі быць ахоўным акопам перад савецкай інфільтрацыяй сярод мясцовага насельніцтва. Яго сімпатыя саветам была амаль відавочная, што, вядома, трывожыла польскія ўлады. Таму не здзіўляе, што „балахоўцаў" — раз, як чужых, а два, як „панскіх слугакаў" — тутэйшыя не прынялі з адкрытымі рукамі. У кожным выпадку варожасць расла і праўдападобна на гэтай глебе даходзіла да звычайных забойстваў, што не значыць, што частка з іх не была інспіраваная савецкай контрразведкай. Сам бацька Балаховіч, своечасова папярэджаны польскай контрразведкай, двойчы пазбег смерці. Мабыць, ад удзячнасці, з адборным атрадам добраахвотнікаў рушыў на дапамогу Юзафу Пілсудскаму ў час майскага перавароту. Шлях гэтай дзёрзкай акцыі, паводле непацверджаных крыніц, вёў ад Белавежы, дзе быў збор добраахвотнікаў, аж да Суляюўка пад Варшавай. Пілсудчыкі здолелі, аднак, перамагчы прыхільнікаў дэмакратычнага ўрада, пакуль „балахоўцы" прыбылі з дапамогай. Не дачакаўшыся ад маршалка слоў падзякі, расчараваны „польскай няўдзячнасцю" Балаховіч заняўся публіцыстычнай і літаратурнай дзейнасцю. Прыняў смерць з рук немцаў. Несумненна, калі б дачакаўся „вызваліцеляў" Польшчы, памятаючыя таварышы не даравалі б яму балючых штуршкоў, якіх ім не шкадаваў у мінулым. От, шчасце. І якое ж драматычнае шчасце!

**Міраслаў ГРЫКА**

**Вачыма еўрапейца**

# Маніфа антыфашыстаў



Між іншым пад лозунгамі „Krok po kroku, naziole won z Białegostoku", „Białystok przeciw faszyzmowi", „Nacjonalizm zabija", „Obudźmy miasto z koszmaru — odbierzmy faszystom ulice" адбылася ў юліянскую пасхальную нядзелю ў цэнтры Беластока антыфашысцкая дэманстрацыя. Паводле паліцыі, прыняло ў ёй удзел каля двухсот асоб (на мае вочы, было іх значна больш), у тым ліку шэсцьдзесят прыехала на двух аўтобусах з Варшавы; былі ў іх людзі не толькі са сталіцы, але, напрыклад, і з Торуні). Беластоцкая дэманстрацыя прайшла з пляца пад ратушай, побач універсітэта і лялечнага тэатра, і зноў пад ратушу. Непадалёк лялечнага тэатра антыфашыстаў прабавала слоўна зачапіць групка маладых людзей, гэтак званых лысыноў. У адказ дэманстранты выкрыкалі: „Mordercy!". Адразу зрэагавала паліцыя, кінула лысых маладзёнаў на зямлю, абшукала, праверыла дакументы і выпусціла, бо не было падстаў для іх затрымання. Паліцыянты, дарэчы, выказаліся незвычайнай спраўнасцю ад пачатку дэманстрацыі. Яшчэ да яе пачатку паяўляючыхся на ратушным пляцы пратэстуючых, у чорным, з закрытымі тварамі (баяліся, што распазнаюць іх праціўнікі і адпомсцяць) абшукалі і праверылі іхнія дакументы. У сваю чаргу прыезджых паліцыянты спынілі раней перад Замбравам. Шукалі ў іх больш гадзіны небяспечных прылад, якія маглі б паслужыць у бітве з праціўнікамі ці паліцыяй. Антыфашысты выказалі некалькі заклікаў:

— Мы тут таму, каб паказаць жыхарам гэтага горада, што можна тут ліквідаваць крайне правы тэрор.

— Як доўга яшчэ прэзідэнт гэтага горада будзе запэўніваць рэшту краіны, што наш рэгіён з'яўляецца спакойным месцам, у якім такія здарэнні, як пабоі закончаныя смерцю ці калецтвам на нацыянальнай ці канфесійнай і іншай глебе — не існуюць? (…) Як доўга яшчэ ўлады гэтага горада будуць хаваць доказы існавання тут сарганізаванай злачыннай групы, складзенай з крайне правых бандытаў?

Дэманстранты спасылаліся ў сваіх выступленнях на пабоі (таксама са смяротным эфектам), якія мелі месца ў Беластоку ў апошні час, у тым ліку іх ахвярамі сталі асобы іншых чым польская нацыянальнасцей і іншага колеру скуры чым белая, ды да знішчэнняў месцаў важных для нацыянальных меншасцей рэгіёна.

Прадстаўніца Zrzeszeni na Rzecz Kultury „Dziewięć dwunastych" заклікала:

— Заклікаем паліцыю і пракуратуру выявіць, з якімі арганізацыямі звязаны асобы адказныя за гэтыя злачынствы па нянавісці (…). Патрабуем дэлегалізаваць групы і арганізацыі, якія ў сваіх пастулатах заахвочваюць да расавай, рэлігійнай нянавісці, ксенафобіі і гамафобіі.

Адзін з удзельнікаў пратэсту пераконваў:

— Улады Беластока памятаюць аб нацыянальнасцях, якія тут загінулі, але не пра тыя, якія тут жывуць. Гэтаксама і беластоцкія культурныя ўстановы.

У дэманстрацыі можна было прыкмеціць некалькі працаўнікоў Універсітэта ў Беластоку, галоўным чынам з сацыялагічнага факультэта. Філосаф, прафесар з гэтай вучэльні Збігнеў Казьмерчак у размове з журналістамі не скрываў:

— Беластачане менш талерантныя, чым думаюць. Трэба шмат працы, каб вакараніць такую спантанную неталерантнасць.

Што аб беластоцкіх здарэннях з апошняга часу (у адносінах да нацыянальных і расавых меншасцей і пабоях у цэнтры горада), таксама ў кантэксце пастулатаў антыфашысцкай дэманстрацыі, сказаў прэзідэнт горада Тадэвуш Трускаляскі:

— Такога тыпу паводзіны і з'явы асуджаем. Аднак такога тыпу злачынствы пераследуе пракуратура.

Прэзідэнт зноў паўтарае, што Беласток гэта бяспечны горад (па статыстыцы!), у якім час ад часу здараецца такое, што не павінна адбывацца, а рознамасным г.зв. радыкальным нацыяналам і ксенафобам на думцы адно агучэнне.

**Мацей ХАЛАДОЎСКІ**

Тэкст і фота
Аляксея МАРОЗА

# Новыя музейныя прапановы

У Музеі і асяродку беларускай культуры ў Гайнаўцы арганізуюцца дзве новыя майстэрні. Пачала ўжо дзейнічаць Майстэрня мастацкіх тэхнік, якую вядзе гайнаўскі жывапісец Данель Грамацкі. Адбыліся ўжо першыя заняткі Беларускай тэатральнай групы, якую ўзначальвае стваральніца тэатральнай сцэны ў Шчытах Іаанна Стэльмашук. У пачатку лета адкрыецца ў музеі трэцяя пастаянная выстаўка „Рамяство на беларускай вёсцы Падляшша". У музеі ствараецца „Галерэя беларускага сучаснага мастацтва". Будзе папаўняцца „Слоўнік беларускіх мастакоў". Працаўнікі музея будуць арганізаваць пастаянныя мерапрыемствы — беларускія фэсты па вёсках з цыкла „І там жывуць людзі" і фэст „Культура на музейных сходах". „Мастацкія сустрэчы школьнікаў", „Музыка без засцярог" — гэта чарговыя беларускія мерапрыемствы ў музеі. Прадбачваецца яшчэ агляд фільмаў, часовыя выстаўкі і іншыя імпрэзы.

— Раней дзейнічаў у нас беларускі тэатральны гурт „Сявенька", але тэатральная і мастацкая майстэрні гэта зусім новая дзейнасць. Арганізуецца яна пад наглядам асоб, якія маюць адпаведную падрыхтоўку для вядзення такіх заняткаў. Раней моладзь у рамках калектыву „Сявенька" пад наглядам Юліты Такаюк і Яна Карчэўскага выступала з абрадамі, гавэндай і гумарыстычнымі сцэнкамі. Цяпер маладыя людзі падрыхтуюць сучасны спектакль, — сказаў дырэктар Беларускага музея Тамаш Ціханюк. — Мастацкія майстар-класы, якія можна назваць заняткамі, вядуцца пад наглядам мастака Данеля Грамацкага. Прадбачваем, што ў выніку атрымаецца выстаўка прац нашых маладых мастакоў.

Іаанна Стэльмашук — выпускніца беластоцкага факультэта лялечнага мастацтва Тэатральнай акадэміі імя А. Зельвяровіча ў Варшаве, акцёрка, аўтарка тэатральных праектаў і заснавальніца тэатральнай сцэны ў Цэнтры адукацыі і прамоцыі беларускай культуры ў Шчытах.

— Наша задума — стварэнне тэатральнай групы з гімназістаў, ліцэістаў, а нават са студэнтаў, калі тыя знойдуць час на такія заняткі. Маладыя людзі будуць абучацца прафесійным тэатральным практыкам, такім як праца над уласным целам, над дыкцыяй і эмісіяй голасу. Хацелі б мы, каб у час заняткаў паўстаў спектакль аб праблемах сучаснай моладзі ў кантэксце нацыянальнасці. Аднак перш за ўсё мае быць гэта добрая гульня, праца над сабой, развіццё сваёй уражлівасці ў нашым духу і на мове нашых продкаў, — лічыць Агнешка Ціханюк,



музейны спецыяліст па справах культуры і мастацтва. Зараз праводзяцца ўжо першыя заняткі, у час якіх маладыя людзі правяраюць свае тэатральныя ўмеласці. Аднак яшчэ не скамплектавана тэатральная група, з якой можна было б працаваць пастаянна. Майстэрня мастацкіх тэхнік працуе ўжо ад канца сакавіка і на занятк і прыходзіць моладзь, якая ўжо патрапіць неяк маляваць і рысаваць. У музеі хочуць яны паглыбляць свае ўмеласці і вучыцца новым мастацкім тэхнікам — жывапісу, рысунку, графіцы, з асаблівым улікам на выконванне акварэляў, алейных карцін, лінарыту, ці рысункаў вугалем.

У палове чэрвеня прадбачваецца адкрыццё трэцяй пастаяннай выстаўкі „Рамяство на беларускай вёсцы Падляшша", якой аўтарам з'яўляецца Агнешка Ціханюк. Дзякуючы праекту з МУСіА можна было купіць ажно каля 90 экспанатаў для новай экспазіцыі (можна ўбачыць таксама старыя пастаянныя выстаўкі „Покі хлеб палажылі на стале" і „Дзень за днём").

— Практычна ўжо закончана арганізацыя выстаўкі, на якой будзе паказвацца рамяство сталяроў, ганчароў, калеснікаў і ткачых. На экспазіцыі будуць тры макеты рамеснікаў за працай. Арганізатараў выстаўкі кансультавалі гайнаўская этнограф Нэля Шчука і мастак Гродзенскага дзяржаўнага гісторыка-археалагічнага музея, — гаварыў дырэктар Тамаш Ціханюк. — Хочам паказаць рамёствы ў больш натуральных абставінах і таму купілі старыя дзверы, акно і лаву, якія будуць фонам для экспазіцыі прылад працы і вырабаў колішніх рамеснікаў.

У музеі ствараецца „Галерэя беларускага сучаснага мастацтва" і для яе патрэб сабрана ўжо каля 60 карцін і звыш 10 прыкладаў разьбы.

— У гэтым годзе ў рамках дзейнасці галерэі прадбачваем арганізаваць выстаўкі фатаграфіі Уладзіслава Завадскага, карцін жывапісца Данеля Грамацкага і разьбы Славаміра Смыка. Пасля арганізавання выставак мы за сродкі з праекта „Беларускі алфавіт мастацтва" купляем для галерэі мастацкія працы. Часткa мастакоў дорыць нам свае работы. Пры нагодзе выставак выдаем буклеты з інфармацыяй аб нашых мастаках і са здымкамі іх работ ды рассылаем іх па бібліятэках і культурных установах Беласточчыны. З буклетаў ствараецца „Слоўнік беларускіх мастакоў", — тлумачыў дырэктар Ціханюк.



*— Разгортваем у нашым музеі культурную дзейнасць і адначасна займаемся музейнай дзейнасцю, прапануючы наведвальнікам паглядзець на пастаянныя і часовыя выстаўкі, — сказаў* ***дырэктар Тамаш Ціханюк*** *(перад карцінамі пленэрнай выстаўкі „Гайнаўка — вароты ў пушчу")*

**З фэсту ў Палічнай, які мае адбыцца 28 красавіка, распачнецца чацвёрты выпуск беларускіх фэстаў з цыкла „І там жывуць людзі".** На працягу трох апошніх гадоў Беларускі музей наладзіў ажно 23 беларускія фэсты, перш за ўсё ў мясцовасцях, дзе даўно не арганізаваліся культурныя мерапрыемствы. Гмінныя ўлады станавіліся іх суарганізатарамі. Прапагандаванне беларускай песні ў выкананні беларускіх вакальна-інструментальных гуртоў і вакальных калектываў станоўча ўспрымалася нашым вясковым грамадствам. Ужо вядома, што ў гэтым годзе беларускія фэсты адбудуцца ў Альхоўцы, Камені, Вэрстоку.

— Мы прынялі формулу даходзіць з беларускай культурай да людзей у вёсках. Бачым, што фэсты ў некаторых месцах выклікаюць новую актыўнасць, у выніку чаго ладзяцца чарговыя культурныя мерапрыемствы, — гаварыў дырэктар Тамаш Ціханюк. — У гэтым годзе, так як і ў мінулым, сарганізуем адзін вялікі фэст у рамках праекта „Культура на музейных сходах", у час якога будзем прэзентаваць ткацтва, саломапляценне, пляценне з ракіты, стравы з бульбы і вырабы з драўніны.

Арганізатарамі „Рокавіска Гайнаўка" з'яўляюцца Таварыства сяброў Гайнаўкі і Беларускі музей. Вядома ўжо, што да конкурснай часткі хочуць прыступіць рок-гурты з Беларусі, але яшчэ не вядома, ці пройдуць яны адбор.

— Да конкурснай часткі хочуць прыступіць таксама калектывы з Літвы, Латвіі і Славакіі, а як зоркі выявілі ахвоту выступіць на нашым мерапрыемстве гурты са ЗША, Нямеччыны, Венгрыі і Англіі, — дадаў Тамаш Ціханюк.

У рамках праекта „Кірыліцай пісанае" будуць ладзіцца ў музеі літаратурныя сустрэчы з улікам на мясцовую гісторыю. Зараз у музейнай бібліятэцы, якая з'яўляецца арганізатарам гэтага праекта, маецца каля 11 тысяч кніжак. Апрача старэйшых чытачоў наведваюць гэтую ўстанову маладыя людзі, вучні Гайнаўскага і Бельскага белліцэяў, студэнты беларускай філалогіі, прыезджыя асобы.

— У рамках праекта „Кірыліцай пісанае" мы купілі каля 50 кніжак і заказалі некаторыя часопісы. На гэты год прадбачваем арганізаваць 6-7 сустрэч з ухілам на беларускую літаратуру, мову і гісторыю. Зараз у музеі даволі многа выданняў на тэму гісторыі, фальклору і беларускай мовы. Маем таксама беларускую сучасную літаратуру, кніжкі беларускіх аўтараў, выдадзеныя апошнім часам на Беласточчыне, — сказала музейная бібліятэкарка Анджаліна Масальская.

У музеі будзе ладзіцца чарговы выпуск фатаграфічнага конкурсу „Падляшша ў аб'ектыве". Згаданыя праекты будуць фінансавацца перш за ўсё сродкамі атрыманымі з Міністэрства адміністрацыі і лічбавізацыі, з Гайнаўскай гарадской управы і адзін праект сродкамі з Маршалкоўскай управы ў Беластоку. На жаль, надалей не ўдалося здаць у арэнду вялікага музейнага памяшкання, якое да 2010 года выкарыстоўвалася на патрэбы магазінаў, а ў якім у мінулым годзе арганізаваліся канцэрты і навагодні баль.

— Зараз у Гайнаўцы цяжка знайсці інвестара, які рашыўся б распачаць новую дзейнасць і таму гэтае памяшканне пустуе. Надалей музей змагаецца з фінансавымі цяжкасцямі. У рамках праектаў стараемся здабываць дадатковыя сродкі на дзейнасць музея. Разгортваем у музеі культурную дзейнасць і адначасна займаемся музейнай дзейнасцю, прапануючы наведвальнікам паглядзець пастаянныя і часовыя выстаўкі, — сказаў дырэктар Тамаш Ціханюк.

Цяпер апрача раней згаданых можна паглядзець часовыя фатаграфічныя выстаўкі — конкурсную „Падляшша ў аб'ектыве" і „Беларусы ў Польшчы" Андрэя Лянкевіча ды пленэрную жывапісную выстаўку „Гайнаўка — вароты ў пушчу".

Товарыство Музеј Малеј Бат'кувшчыны в Студзіводах
запрашаје на

## ТАМ ПО МАЁВУЙ РОСІ

IX Міжнародны Пудл'ашско-Пол'ескі Фестывал'
5 МАЈА — 4 ЧЕРВ'ЕН'А 2012

### ПРОГРАМА

**5 мая (субота)**

Музеј Малеј Бат'кувшчыны в Студзіводах

$14^{30}$ Традыцыјны строі Кобрыншчыны — вернісаж выставы; выступ этнаграфічнай групы з Дывіна (Кобрыншчына, Беларус')

$15^{30}$ Свјазі Кобрыншчыны і Біел'шчыны — попул'арно-навуковы семінар

$19^{30}$ Авторскі вечур з поетом Петром Шепет'уком з Л'елікова, пішучым в тороканскуј говуорці

Дубіны, гм. Гајнувка

$18^{00}$ Концерт фол'клорного кол'ектыву „Дароносіца" і театру гумору „Хмел'евскі Волоц'угі" з Хмел'ева к. Жабінкі (Беларус')

**6 мaja (недіел'а), ден' св. Јурыја**

Студзіводы — пол'е Старыје Порубы (Кореја)

$13^{00}$ Обходы жыта; обрады звезаны з дн'ом св. Јурыја

Гусакі, гм. Біел'ск

$15^{00}$ Обходы жыта і выступ груп з Дывіна і Хмел'ева

Орехвічы, гм. Біел'ск Пудл'ашскі

$17^{00}$ Корогод по гуліці вјоскі

Гац'кі гм. Біел'ск Пудл'ашскі

$18^{00}$ Корогод і выступ груп з Дывіна і Хмел'ева

**10-18 мaja**

Музеј Малеј Бат'кувшчыны в Студзіводах

Треті резбјарскі пл'енер „Студзіводы' 2012"

**19 мaja (субота)**

$10^{00}$ Одкрыта студыйа фол'клору Кобрыншчыны — піесні з Магдаліна, Камен'а Шл'ахецкого, Верхл'ес'а, Новос'улок і Біел'ска

Пл'ескі — Кнорозы — Зубово, гм. Біел'ск Пудл'ашскі

$14^{00}$ Весновыје корогоды колектывув з Кобрыншчыны: Магдалін, Камен' Шл'ахецкі, Верхл'ес'е, Новос'улкі (Беларус') і груп з Пудл'аша

Кожыно, гм. Біел'ск Пудл'ашскі

$17^{00}$ Концерт в Домі Опіекі „Ковчег"

$18^{30}$ Концерт обрадовых кол'ектывув з Кобрыншчыны і Пудл'аша пры старым вод'аным млині над Локніцоју

$20^{00}$ Показ н'емого філ'му „Гол'ем" і концерт групы „Гурзуф" (Мінск, Беларус')

**20 мaja (недіел'а)**

Біел'ск Пудл'ашскі, Пл'ац пры Ратушові

$12^{00}$ Музыка і танці Великого Кн'аства Літовского і заходн'уј Европы 15-16 віеку в выконан'у кол'ектывув Аква Профунда і Гісторыјон з Мінска

$13^{30}$ **ПОЧАТОК ЈАРМАРКУ НА СВ. МІКОЛЫ**. Гісторычна реконструкцыја прыјезду з Кнышына до Біел'ска корол'а Жыгімонта Августа і надан'а прывіл'ејув реміесніцкім цехам

$14^{00}$ Выступы кол'ектывув традыцыјного фол'клору Кобрыншчыны

$16^{00}$ Музыка і танці Великого Кн'аства Літовского і заходн'уј Европы 15-16 в.

Музеј Малеј Бат'кувшчыны в Студзіводах

$19^{30}$ ОЈ, ДАВНО-ДАВНО. Б'елорускі гісторыјі з Пудл'аша. Спектакл' в выканан'у молод'ожнуј театрал'нуј групы Товарыства АББА з Б'елостока

**21 маја (понедіелок), ден' св. Јана Богослова**

Біел'ск Пудл'ашскі. Пл'ац пры Ратушові

$10^{00}$ Јармарок на св. Міколы. Варштаты танц'ув Великого Кн'аства Літовского і заходн'уј Европы 15-16 в.

Орл'а, парк в центрові міестечка

$13^{00}$ Сустреча з фол'клорнымі кол'ектывамі з Кобрыншчыны

Версток — Војнувка — Старына — Гурынувшчына — Віл'укі — Пас'ечнікі Малыје — Довгі Бруод — Вітово —Істок, гм. Дубічы Церковны

$15^{00}$ Весновыје корогоды гуліц'амі пудл'ашскіх, б'елорускіх вјосок в Б'елавежскуј пушчы

**3 червен'а (недіел'а), ден' Св. Тројцы**

Нараўка

$12^{00}$ Обрадовы корогод з удіелом групы „Світанак" з Дз'атловіч к. Лунінца на Полесс'у і групы „С'омуха" з Мінска (Б'еларус') і жытел'ув Наровкі

Ал'хоўка, гм. Нараўка

$15^{00}$ Обрадовы корогод з кустом з удіелом обрадовых кол'ектывув і жытел'ув Ал'хоўкі

Мас'ево, гм. Нараўка

$18^{00}$ Выступ групы „Світанак" і „С'омуха"

**4 черв'ен'а (понедіелок), ден' Св. Духа**

Рыболы, гм. Заблудов
Музеј Матерыјал'нуј Кул'туры „Бат'кувшчына"

$13^{00}$ Весіел'ны обрады, піесні і танці — выступ групы „Світанак" з Дз'атловіч (Пол'ес'е, Б'еларус')

Храболы, гм. Біел'ск Пудл'ашскі

$17^{00}$ Выступ групы „Світанак"

**14-15 і 27-29 ліпен'а**
**VIII Пудл'ашско-пол'ескі жнівны сустречы „Ол'ен' по бору ходіт"**

# Ёсць справы важныя і важнейшыя

## Размова з бурмістрам Багуславам Панасюком пра афіцыйнцыя адносіны горада і гміны Крынкі з Рэспублікай Беларусь



**Іаанна Чабан:** — *Шаноўны спадар бурмістр, раскажыце, калі ласка, пра гісторыю, сучаснасць і будучыню сувязей нашага горада і гміны з Рэспублікай Беларусь.*

**Багуслаў Панасюк:** — Ну што ж, Беларусь гэта наш найбліжэйшы, непасрэдны сусед, з якім супрацоўніцтва павінна і мусіць адбывацца. На жаль, на практыцы выглядае гэта інакш. Сёння такія справы перанялі на сябе прыватныя прадпрымальнікі; я ў гэта не ўмешваюся. Ведаю толькі, што абодва бакі, беларускі і польскі, дасягаюць паспяховых рэзультатаў перш за ўсё ў фінансавым плане. Тут, у Крынках, вядучым прадпрыемствам з'яўляецца суполка „Артэз" Юрыя Глябовіча, якая ад пачатку сваёй дзейнасці блізка супрацоўнічае з беларускімі вытворцамі цэменту і паленай вапны.

Мушу сказаць, што нашы палітычныя ўмовы, напрамак дзейнасці польскага ўрада, спяпое падпарадкаванне нейкай дыктатуры, не ведаю — рэальнай ці штучнай, уплывае на няправільныя адносіны з нашым беларускім суседам. Крытыкуем і павучаем беларусаў, прытым самі знаходзімся ў асаблівa цяжкай сацыяльна-эканамічнай сітуацыі; хто тут каго павінен павучаць?.. Прыстойны сусед падтрымлівае добрай парадай, дапамагае, а не загадвае.

Развіваюцца трансгранічныя кантакты на першым узроўні, паміж звычайнымі людзьмі, што таксама немалаважнае. Мяжа, якая б яна не была, ці з Чэхіяй, ці з Нямеччынай, заўсёды жыла і перад вайной, і яшчэ ў семнаццатым і васемнаццатым стагоддзях. Цяпер вялікія скаладаннасці перш за ўсё з-за візавых абставін.

Мы, як горад і гміна, вядзем супрацоўніцтва больш у культурным і культурна-сацыяльным плане. Карыстаемся фактам, што да вайны былі мы ў Гродзенскім павеце (раёне), па сённяшні дзень чэрпаем з багацця вялікага горада над Нёманам, у якім многа культурна-адукацыйных установаў на самым высокім узроўні. Вельмі часта заглядаюць да нас беларускія артысты, вядомыя барды, але таксама запрашаем дзіцячыя і моладзевыя гурты. Неаднаразова выступаў на крынкаўскай сцэне гродзенскі гурт „Фантазія", які толькі што святкаваў свой юбілей дзесяцігоддзя. Абмен нават і ў культурным плане вельмі абмежаваны, для прыкладу: хочам запрасіць беларускіх артыстаў да ўдзелу ў штогадовым мерапрыемстве з нагоды Дзён Крынак, якія адбываюцца ў канцы ліпеня і ўжо цяпер, у палове красавіка, нам трэба клапаціцца пра ўсялякія паперы, дакументы, запрашэнні неабходныя для атрымання дазволу на іх уезд у Польшчу. Вельмі ўсё гэта складана. Як карэнны жыхар Крынкаўскай зямлі не бачу выхаду з гэтай сітуацыі. Па-мойму, так не павінна гэта ўсё адбывацца.

— *Ці Крынкі развіваюць партнёрства з якім-небудзь брацкім гарадком у Беларусі?*

— Раней мы супрацоўнічалі з раёнам Вялікай Бераставіцы, але ў канцы дзевяностых гадоў гэтая сувязь пагасла. Цяпер партнёрства з раёнамі ці гарадамі не вядзецца, кантактуемся толькі з паасобнымі ўстановамі, як, напрыклад, з музычнай школай у Гродне.

— *Ці крынкаўская адукацыйная ўстанова ўтрымлівае нейкія кантакты са школамі за мяжой?*

— Цяжка мне нешта сказаць на гэтую тэму. Не ведаю, у мяне многа штодзённых, бытавых спраў, на якіх я ў першую чаргу засяроджваюся і якімі я павінен займацца, у тым ліку гаспадаркай адходамі і ачышчальнай сцёкаў.

— *Як Вы ставіцеся да штораз больш папулярных, маштабных праектаў пагранічнага супрацоўніцтва з Усходам?*

— Калі каму падыходзяць такія праекты, няхай гэтым займаецца. У нас якраз іншыя прыярытэты. Мы канцэнтруемся на першапланавых праектах, з якімі ўжо даўно павінны справіцца, а якія, на жаль, застаюцца неразвязанымі. Другая справа, што нашы фінансавыя магчымасці не дазваляюць на лішнія расходы, а вядома: на ўсе партнёрскія праграмы патрэбны ўласны ўклад. З гэтым таксама звязаны цяжкія працэдуры, якія патрабуюць шмат часу. Нам такое непатрэбнае, зашмат усялякіх фармальнасцей — шкада жыцця на гэта.

— *Якія тады ў Вас планы на будучыню звязаныя з добрасуседскімі адносінамі?*

— А што ж мы можам планаваць у рэаліях еўрапейскай палітыкі нашай дзяржавы... Нічога мы тут не заплануем. Усё гэта пясочныя замкі, якія ў кожны момант могуць рассыпацца...

— *Вялікае дзякуй за размову.*

**Размаўляла Іаанна ЧАБАН**

## СЕМІНАР

**Бельшчына і Кобрыншчына — гістарычныя і культурныя сувязі**
**5 мая 2012 г. (субота), гадз. $15^{00}$**
Музей Малой Бацькаўшчыны ў Студзіводах

Праграма:

**Алена Бабенка** (Кобрын): Бельск і Кобрын — гісторыя і загадкі княжацкіх часоў

**а. Рыгор Сасна** (Рыбалы): Сувязі Бельшчыны з Кобрыншчынай у біяграфіях праваслаўнага духавенства

**а. Андрэй Шэўчук** (Кобрын): З царкоўнай гісторыі Кобрына

**а. Аляксей Курыловіч** (Бельск-Падляшскі), **Дарафей Фіёнік** (Студзіводы): Айцец Лука Курыловіч — кобрынскі чыноўнік і падляшскі душпастыр

**а. Сергій Гардун** (Мінск): Мястэчка Дывін: старонкі царкоўнай гісторыі

**Іван Чарота** (Мінск): З гісторі Вежкаўскага Свята-Уваскрасенскага прыхода Кобрынскага благачыння

**Таццяна Агіевіч** (Бельск-Падляшскі): Агіевічы з Кобрыншчыны

**Адам Міран Лэнчыцкі** (Бельск-Падляшскі): Пра Лэнчыцкіх з Кобрына

**Таццяна Некрашэвіч** (Кобрын): Старонкі гісторыі Кобрына XIX і XX ст.

**Вольга Пянцава** (Кобрын): Традыцыйны фальклор Кобрыншчыны

**Тамаш Суліма** (Студзіводы): Па слядах этнаграфічнай экспедыцыі на Кобрыншчыне

■ Мацей ХАЛАДОЎСКІ

# Інспіруючыя пагранічча

**Аб стыкоўцы культуры і медыяў дыскутавалі навукоўцы м.інш. Ягелонскага, Сілезскага, Гданьскага і Беластоцкага ўніверсітэтаў ды Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта ў Мінску ў час канферэнцыі, сарганізаванай у беластоцкім Цэнтры імя Людвіка Заменгофа. „Толькі сутыкненне розных поглядаў на шматкультурнасць і шматмедыйнасць дазволіць стварыць новую якасць", — сказала нам яшчэ да пачатку канферэнцыі праф. Малгажата Радкевіч з Ягелонскага ўніверсітэта, яе сувядучая. Другая сувядучая, Аліцыя Кісялеўская з Універсітэта ў Беластоку, адзначыла:**

— Сёння аб шматкультурнасці на стыкоўцы культуры не ўдасца гаварыць без прызмы СМІ.

Канферэнцыю (12-14 красавіка) пачаў даклад „Касмапалітызм і шматмаштабнасць тоеснасці чалавека пагранічча культур" праф. Ежы Нікітаровіча, адыходзячага рэктара Універсітэта ў Беластоку. Засяродзіўся ён на неабходнасці вывучання шматмаштабнага жыцця, на жыцці на шматлікіх узроўнях, пачынаючы ад сямейнага, мясцовага, парафіяльнага, рэгіянальнага праз нацыянальнае, дзяржаўнае да інтэграванага ў культурным плане, міжкультурнага, кантынентальнага і планетнага. Адзначыў:

— Скажаным з'яўляецца разуменне касмапалітызму ў час нацыянальных дзяржаў. Касмапалітызм трактуецца як абыякавасць для ўласнай культуры, у апазіцыі да патрыятызму. Асацыюецца ён з лібералізмам і нігілізмам. Неабходна даць гэтаму паняццю новае значэнне, у разуменні адкрыцця на ўсіх.

Звярнуў увагу:

— Пасля вяртання незалежнасці (пасля 1989 г. — М. Х.), будуем тоеснасці ў апазіцыі да сябе. Таму ўзнікаюць апаскі, што ўзнікне Рэч Паспалітая шматлікіх народаў. Неабходнай з'яўляецца рэвіталізацыя ўспрымання ідэй і людзей пагранічча.

З вельмі цікавым дакладам выступіла доктар Ірына Шумская, дацэнт культуразнаўства мінскага БДУ. Расказвала аб „спецыфічнасці фармавання рэгіянальнай тоеснасці на тэрыторыі польска-беларускага памежжа". Адзначыла:

— Пагранічча становіцца найчасцей зонай творчага супрацоўніцтва і ўзаемных інспірацый для стваральных яго людзей, калі над магчымымі прадузятасцямі ці канфліктамі бяруць верх добрыя асабістыя кантакты і адносіны жыхароў. Сітуацыя ўзаемнай блізкасці і адначаснай прыналежнасці да іншых „светаў" уносіць да супольнага існавання новы змест, ствarae новую якасць, новую перспектыву ва ўзаемным успрыманні.

Дадала:

— Абмяркоўваючы праблему механізмаў функцыянавання пагранічча ў гістарычнай памяці, літаратурных творах і творах мастацтва ды ў свядомасці цяперашняга пакалення палякаў і беларусаў, трэба памятаць, што бачанне ўсходніх крэсаў з'яўляецца творам уявы, асабістых перажыванняў, а таксама стэрэатыпаў і архетыпаў, якія разам са згаданай тэрыторыяй спазнавалі трансфармацыю ў часе і падвяргаліся эвалюцыі разам з калектыўнай свядомасцю людзей, якія якраз тое пагранічча стварылі (...). Культурнае адраджэнне беларусаў у Польшчы трактавалася як выраз рэгіяналізму ўнутры аднароднага па палітычнай і нацыянальнай прыкметах польскага грамадства. Наогул памежныя рэгіёны (у тым ліку і беларускія землі) у мінулым звычайна з'яўляліся сімвалам перыферыйнасці і занядбанасці.

Доктар Шумская спаслалася на думку Сакрата Яновіча: „Само вызначэнне „крэсы" вельмі зняважлівае для беларусаў, украінцаў, а таксама літоўцаў. Гэта так быццам бы расіяне пісалі аб Заходніх крэсах Расійскай дзяржавы або проста аб Заходняй Расіі замест аб Польшчы".

Аўтарка даклада сцвердзіла таксама:

— Наогул адказы на пытанне аб дэтэрмінанты спадчыны на польска-беларускім пагранiччы вельмі складаныя, паколькі яно не аднароднае, не даследаванае да канца, а спрэчка аб першынстве польскіх ці беларускіх каштоўнасцей можа ставіць чарговыя бар'еры і тармазіць дыскусію над гэтым пытаннем.

Агулам у час канферэнцыі былі зачытаны больш за дваццаць дакладаў, датычных таксама сутыкнення культур і СМІ ў шматлікіх краінах свету на прыкладах м.інш. поп-музыкі, фільма ці сродкаў масавай інфармацыі. Абмяркоўваліся розныя пытанні, датычныя тэматыкі канферэнцыі, у тым ліку напр. Анна Карзінская з Універсітэта ў Беластоку дзялілася сваімі развагамі аб прасторы могільніка на прыкладзе каталіцка-праваслаўных некраполій, галоўным чынам у Каралёвым Мосце, Гарадку і беластоцкіх Старасельцах. Перад тым, як распавяла пра гэтыя могільнікі, успамінала:

— „Іншы" мусіць быць вядомым. Мець веды аб „іншым" гэта не значыць ведаць яго. Сусед у шматканфесійных вёсках (тут у разуменні каталіцка-праваслаўных — М. Х.) заўжды быў на воку. Узаемна меласа на ўвазе ўстрымліванне ад працы ў святы, а парушэнне гэтага прынцыпу было клеймаванае (...) Могільнік гэта месца памяці грамады.

На слайдах, якія паказвала дакладчыца, відаць было магілы, на якіх пастаўлены крыжы як каталіцкія, так і праваслаўныя. Галоўным чынам гэта месцы пахаванняў мешаных сужонстваў.

Галоўнымі арганізатарамі канферэнцыі былі Інстытут аўдыёвізуальных мастацтваў Ягелонскага ўніверсітэта ды Інстытут ведаў аб культуры Універсітэта ў Беластоку.

# „Ніва", пішы пра вёску!

Я — карэспандэнт „Нівы" — слова стрымаў. Усе экземпляры беларускага штотыднёвіка „Ніва" №№ 15 і 16 у крамах ГСу ў Старым Ляўкове, Плянце і ў Нараўцы (крама каля помніка) купілі. І не будзе г.зв. зваротаў. У Ляўкове святочнага велікоднага нумара было 9 экземпляраў, у Плянце — 6 і ў Нараўцы — 2. У Ляўкове і ваколіцы было зацікаўленне маім артыкулам пад загалоўкам „Сотні гадоў перад керамічнай фабрыкай". У Старым Ляўкове зацікаўленыя жыхары маюць 5 экземпляраў, у Новым Ляўкове — 10 і ў Плянце — 3 экземпляры. У гэтых вёсках ёсць і пастаянныя падпісчыкі на „Ніву". Беларускі тыднёвік у Нараўцы купілі новаляўкоўцы.




У Нараўцы ёсць школа і ў ёй вучацца дзеці і моладзь з усяе Нараўчанскае гміны. А хто з іх купляе „Ніву"? Стаўлю пытанне. У школе ёсць навучанне беларускай мовы. Вучні бяруць удзел у конкурсе „Роднае слова" і не хочуць мець сабе як памятку „Ніву", якая пісала пра ўдзельнікаў конкурсу з нараўчанскага Комплексу школ — а адзін гімназіст заняў жа першае месца! Пра гэта было ў „Зорцы" — дзіцячым дадатку да 15 нумара ад 8 красавіка г.г.

У Нараўчанскай гміне „Ніву" чытаюць перш-наперш старэйшыя жыхары. І яны хацелі б, каб у беластоцкай беларускай газеце больш пісалі, што новае ў вёсках на Гайнаўчышне, Бельшчыне ці Сакольшчыне, што робяць войты, радныя, солтысы, каб жылося лепш, выгадней ці менш складана. Калі яны нічога не робяць, таксама трэба пісаць. Ёсць жа столькі дырэктараў, кіраўнікоў, старшынь. Пішыце, што добрае робіцца, а што дрэннае. Усё неяк „валіцца" і падае, тое-сёе ліквідуюць, забіраюць з вёскі. А жыццё складваецца таксама і з дробязей. А вядома, з вёсак забралі паштовыя скрынкі, прыдарожныя тэлефоны, адмянілі курсы аўтобусаў ПКС (асабліва ўжо ў суботы і нядзелі). А што ездзіў цягнік, дык ужо забылі. Нядаўна ў Плянце насупраць крамы адсеклі ад палатна-бетону тэлефонную будку і забралі.

Але ж і трэба змагацца. У Новае Ляўкова вярнулі паштовую скрынку. Вярнулі нават другую дошку аб'яў (яна навюсенькая). Адна і дугая рэч — ажно зіхаціць! Хто паклапаціўся, каб яны былі, каб былі актуальныя раскалады язды аўтобусаў ПКС ды ўвогуле каб былі? Солтыс.

Вось другі солтыс, з Плянты, патрабаваў рамонту адрэзка павятовай дарогі каля чыгуначнага вакзала, бо не праехаць, не прайсці. І знайшлася рада. Зараз ён мае адноўлены будынак святліцы і ўяго клопат пра мэблю, пра заслоны і фіранкі ў вокнах. Моладзь мае ўжо дзе спраўляць свае „васемнаццаткі" (была ўжо адна).

А варта дадаць, што нешта зварухнулася ў Міклашэве і ў Ахрымах. У іх задбалі таксама пра святліцы. Асабліва ў Ахрымах (жыве тут гмінны радны). У гэтых вяскоўцаў ёсць ужо пэўныя планы ажывіць культурнае жыццё.

**Янка ЦЕЛУШЭЦКІ**

## Што будзе са скверам?

Сквер побач Свята-Мікалаеўскага сабора па вуліцы Ліпавай у Беластоку невялікі. У ім роўненькія сцяжынкі, ля іх лавачкі і белыя шарыкавыя электралямпы. Тут прыемна і ўтульна. Калі б крыху пацяплела — і на галінках дрэў закрасуюцца першыя зялёныя лісточкі.

Аднак... у гэтым скверы хочуць ссячы дрэвы і кустарнікі! Мо яны ўжо старыя! А вось прыйдзе лета і не будзе тут цяньку. А хто ж тады выседзіць тут у спёку?

У палове сакавіка г.г. адсюль вытурылі газетна-часопісны кіёск „Рух". Каму ён замінаў? Ён якраз тут быў патрэбны. Дык навошта ўводзіць новае, калі яно нічым не лепшае? Няма на што еўрасаюзных грошай выдаць?

Па вуліцы Ліпавай ссеклі ўсе ліпы. Зараз яна толькі з назвы Ліпавая. Ссеклі ўсе дрэвы і кустарнікі ля скрыжавання вуліц ген. Андэрса, Васількаўскай і 27 Ліпеня.

Гарадскія ўлады, апамятайцеся, пакуль яшчэ не запозна!

## Рамонты неабходныя, каб бяспечна ездзіць

Шэсць мільёнаў злотых улады Беластока запланавалі выдаць на сёлетнія рамонты маставых гарадскіх вуліц. Вялікага рамонту патрабуюць вуліцы Мядзведжая, Палковая і Правянтовая ды вуліцы Саўлянская, Влукеннічая, св. Войцеха і Навагрудская (ад вул. Палескай да вуліцы Цёплай). Тут рамонты распачнуцца ў канцы красавіка.

Ужо цяпер — калі бывае пагодлівае надвор'е — дарожныя службы „латаюць" ухабіны, якія ўтварыліся зімою, між іншым, на вуліцах Вашынгтона, Упальнай, Гандлёвай, Воцтавай і Герояў Монтэ-Касіна.

Маставую з выбоінамі мае адрэзак алеі Тысячагоддзя ды кавалкі вуліц Палескай і ген. Андэрса, а таксама адрэзак вуліц Сейненскай і Гуртовай. Яны будуць комплексна перабудаваны. Ужо пачалі іх рамантаваць. Толькі ці на ўсе гарадскія маставыя хопіць гэтых рэзерваваных 6 мільёнаў злотых?

## Дзе патрэбны прыстрэшкі?

У Беластоку па вуліцы 27 Ліпеня ёсць восем аўтобусных прыпынкаў гарадскога транспарту. У 2010 годзе на гэтай доўгай вуліцы аднавілі асфальтавую маставую і пабудавалі электраасвятленне. У 2011 годзе закончылі пабудову веласіпеднай сцежкі на цэлай даўжыні вуліцы.

На вуліцы 27 Ліпеня на некаторых прыпынках гарадскога транспарту стаяць толькі слупкі з раскладамі язды аўтобусаў, сям-там з лавачкамі, а дашкаў над імі няма. Неабходна паставіць пяць прыстрэшкаў ды адрамантаваць пачакальню ў канцы артэрыі на перыферыі горада. У сакавіку г.г. адзін прыстрэшак у пачатку вуліцы кудысьці забралі ў сувязі з распачатай перабудовай скрыжавання вуліц Васількоўскай, генерала Андэрса і 27 Ліпеня. Можна яго паставіць там дзе іх дагэтуль не было?

**(яц)**



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.iig.pl)
www.e-zorka.pl

зорка
для дзяцей і моладзі

# Мая мара мецЬ такую сяброўку...

У калідоры-галерэі мадэрнай школы імя Зыгмунта Глогера вітаюць стэнды з культурай нацыянальных меншасцей. Тут усё што трэба: вышыванкі, выданні, рэлігійныя сімвалы і — вядома — кулінарыя. Беларускі стол прыцягае як магніт, бо ён каляровы і смакавіты. Сярод далікатных жоўта-зялёных кветак з паперы як жывая сядзіць курачка на яйках. Яна з каляровага, моднага флямцу. Тут жа велікодны піражок і яйкі-пісанкі. І сушаная, белая каўбаска — мясцовы рарытэт Гарадоччыны. Вяснова-велікодны настрой папаўняе весялосць дзяцей, якія, быццам жаўранкі, шчабечуць ля стэнда.

Пытаю пра курачку.

— Яе зрабіла мама Лены і Соні, спадарыня Дарота Сульжык, — кажуць у адказ.

Тое, што адвочна ў час пятага выпуску фестывалю культур, гэта ангажаванасць бацькоў.

Вось суседні вялікодны стэнд падрыхтавалі бацькі школьнікаў з „дванаццаткі". Ён як выняты з „тэлебачання". Тут усё, што характэрнае польскім традыцыям з розных рэгіёнаў краіны: пірагі мазуркі, каляровыя „пальмы", аздобленая вярба, зайчыкі ды пісанкі. Разам і вэнджаныя каўбасы, якія робяць толькі на Падляшшы...

— У нашай школе звыш тысячы дзвесце вучняў, — чую ад настаўніцы, якая знаёміць мяне са школай. — Многія з іх сутыкнуліся з традыцыямі беларусаў, калі ў час святаў выязджалі да бабуль і дзядоў у вёску...

* * *

І сапраўды, на фоне іншых меншасцей прэзентацыі беларусаў успрымаюцца як штосьці крыху знаёмае, свойскае, зразумелае. У час, калі дзяўчаткі з Гарадка ставілі сваю п'есу „Пра разумную ўнучку", беластоцкая публіка ўспрыняла іх цёпла і сардэчна. Дзве дзяўчынкі, якія сядзелі побач мяне, наладзілі нешта накшталт спаборніцтва на словы. Яны вымаўлялі вядомыя сабе беларускія словы: *бусел, сабака, пеўнік, агароднік...*

І смяяліся „пад носам".

— Вы таксама маеце бабуль у вёсцы? — пытаем.

— Так-так, — ківаюць галоўкамі.

Арыгінальнае выступленне прыдумалі вучні з беластокай „чацвёркі". Яны выступілі з вершамі і песнямі на словы беластоцкіх паэтаў Вітара Шведа і Міры Лукшы. Тут спрацавала цікавая выпадковасць. Віктар Швед ад гадоў з'яўляецца сябрам беластоцкай „дванаццаткі". Ён — ганаровы госць фестывалю і герой аўтарскіх сустрэч, якія арганізавалі яму ў школе. У час пятага выпуску фестывалю ён глядзеў на прэзентацыі сваіх твораў з ганаровай ложы. Чаму такога жэсту не ведаюць арганізатары беларускіх фестываляў і дэкламатарскіх конкурсаў?!

З беларускай песняй выступілі ліцэісткі Юстына Давідзюк і Дарота Лесняк, апранутыя ў стылізаваныя на народны манер касцюмы і вяночкі. І дзеткі з праваслаўнай школы, якія адначасова прадстаўлялі культуры беларусаў, украінцаў і рускіх.



Фота Ганны Кандрацюк

Дзеці і моладзь з чачэнскага гурту „Nohcho"

* * *

— Oni są super! Ale to fajne! Ręce same układają się do klaskania!

Прыведзеныя словы захаплення выклікалі дзеці і моладзь з чачэнскага гурту „Nohcho". Хоць чачэнцы ў Беластоку жывуць ад нядаўна, яны найбольш відавочная „меншасць". Усюды, нягледзячы на абставіны, яны размаўляюць па-свойму, выступаюць на гарадскіх святах, у гандлёвых галерэях. Дзяўчаты і жанчыны ходзяць у хустках. Маладыя чачэнцы, нягледзячы на тое, што добра ведаюць польскую мову (яны ходзяць у польскія школы), цвёрда трымаюцца сваёй мовы і культуры.

Як кожны год яны падрыхтавалі адмысловую праграму з народнымі танцамі. Паказ проста электрызаваў публіку. Чачэнцы захапілі жыццярадаснай энергетыкай і адначасова паэтычнай лёгкасцю. Яны паказалі, што апрача прыродных здольнасцей, неабходны варштат, доўгатэрміновая навука пад вокам вопытных майстроў.

У жыццярадасным і каляровым стылі выступілі прадстаўнікі ромаў. Гурт „Фортэ Рома" — гэта дарослыя музыкі (пані Малгося Шырэнас — настаўніца ў музычнай школе). Яны выступілі на фестывалі па прычыне адной акалічнасці. Якраз у ПШ № 12 вучыцца дзіця аднаго з музыкаў. Як вопытныя артысты, ужо з першага гіта падарвалі да танца і спеву ўсю публіку. У гэтай цэлай каляровасці прагучэў беларуска-свойскі матыў. Вось „Фортэ Рома" адаптаваў гіт „Ой, Гандзя" гурту „Ас" і першую частку прыпеву гурт спяваў па-беларуску, а рэшту — па-цыганску.

Прадстаўнікі чачэнцаў разумелі, што на міжнацыянальны фестываль трэба пасылаць найлепшых! У гэтым заключаецца іх поспех. Іншая праблема ў жыдоў. У іх музычная культура пакуль адраджаецца. Беластоцкі гурт „Young Folk Crew", у якім дзеці і моладзь спяваюць ды іграюць на народных інструментах, з кожным годам расце і спявае штораз лепш.



Фота Ганны Кандрацюк

* * *

Як кожны год у рамках фестывалю вядзецца літаратурны і мастацкі конкурс „Мой сябра чужаземец". Сярод узнагароджаных лаўрэатаў апынулася Соня Ніна Сульжык з Гарадка. Яна намалявала кітайскую прынцэсу, акоценую цмокам.

— Чаму якраз твая сяброўка з Кітая?

— Бо ў *Кітах* цмокі жывуць у згодзе з людзьмі. Іх лічаць добрымі і просяць у іх дапамогі. А мая мара — мець такую сяброўку, якая можа атрымаць дапамогу цмокаў, — кажа таленавітая разумнічка.

Варта дадаць, што сярод ганаровых гасцей фестывалю ад гадоў з'яўляецца рэдакцыя нашай „Зоркі".

Пяты Фестываль культур адбыўся 19 красавіка г.г., якраз у пасляwелікодны перыяд. Госці, якія дабіраліся ад цэнтра горада, пабачылі праваслаўны банэр з велікодным прывітаннем „**Христос Воскресе!**"

ЗОРКА

# Конкурс пра вясну (18)

Прывітанне, сябры! У нас працяг тэматычнага конкурсу, звязанага з перыядам вясны. Разам з адказамі, калі ласка, пазначце нумар конкурсу:

**1. Дзе адбываецца школьны фестываль культуры?**

*а) у Гайнаўцы, б) у Белавежы, в) у Беластоку.*

**2. Які святы лічыцца апекуном хатняй жывёлы?**

а) *св. Пятро, б) св. Юры, в) св. Меркуры.*

**3. У якой вёсцы на Падляшшы на Юр'я выганялі кароў, прыаздобленых вянкамі?**

*а) у Старым Ляўкове, б) у Дабрывадзе, в) у Кнарыдах.*

**4. Юр'еўская раса дапамагала дзяўчатам:**

*а) у вучобе, б) у нешчаслівым каханні, в) пазбыцца вяснушак і вугроў.*

Адказы дасылайце да 6 мая 2012 г. (найлепш па электроннай пошце на адрас „Зоркі"). Тут разыграем цікавыя ўзнагароды: беларускія кніжкі, CD і гульні.

**Рашэнне конкурсу № 14:** Назва месяца красавіка выводзіцца ад кветак-красак (б); пасляwелікодны тыдзень у народзе называюць светлым (б); у час Вялікадня на Падляшшы спраўляюць „Канапельку" (а); велікодныя падарункі дзецям — валачобнае (б).

Узнагароды, даведнікі пра ландшафтныя паркі Падляшша, выйгралі **Войтэк Куптэль, Моніка Раманюк** з Арэшкава, **Паўліна Марчук** з Нараўкі, **Сільвія Садоўская** з Беластока. Наш спонсар — Сувальскі ландшафтны парк. Віншуем!

ЗОРКА

# Вершы Віктара Шведа

## Падказка

У гарадскім магазіне
Просіць прадаўца жанчына:
— Можа падкажа пан слоўцам
Што пісьменніку-пачаткоўцу

Можна купіць пры нагодзе
Патрэбнае яму на штодзень?
— Параю купіць вам цяпер
Прыгожы кош для папер.

## Прыгожая дзяўчына

Вярнуўся з вёскі Ягорка,
Была аб жаніцьбе гаворка.
Сыночку пахвастаўся матка:
— Знайшоў на жонку кандыдатку.

Тут было пытанне сына:
— Ці прыгожая дзяўчына?
— Бачыў, як прыгожа дома
З фуры звальвала салому.

# Юр'еўскія чары!

У вёсцы Дабрывада, што ля Кляшчэль, спяваюць старажытную песню „Святы Юры, Рыгорэ". Змест юр'еўскай песні паказвае ўяўленне падляшукоў пра нараджэнне вясны.

Вось, ужо з першага радка вядома, што па просьбе землятрабоў святы Юры збіраецца ісці да Бога. Яго місія паспрыяе прабуджэнню жыцця ў прыродзе. Каб такое заіснавала — патрэбныя ключы, якія на час зімы знаходзяцца ў схове Бога. Гэтымі ключамі народны пасланец сам адкрые зямлю. І гэта не канец пастаўленых яму задач. Паводле народных павер'яў, Юры павінен „выпусціць" на зямлю траву і прыаздобіць у лісцейкі дрэвы і кусты.

Невыпадкова нашыя продкі чакалі да Юр'я, каб першы раз вывесці на папас авечак і кароў. Святы Юры — апякун хатняй жывёлы: коней, кароў, авечак. Таму ў час першага папасу кароў прыаздаблялі кветкамі, зеллем, маладымі галінкамі. Як гэта магчыма? Карова ж любіць маладую траву і кветкі, і адразу іх прагльне! Вось у наваколлі Дабрывады сплятаі вянкі з зеляніны і прымацоўвалі іх да рагоў жывёлы. Гэты жэст меў паспрыяць малочнасці і паспяховаму расплоду жывёлы. Зёлкі засцерагалі ад чараў і вядзьмарак, якія „забіралі" ў кароў малако...



Фота Ганны Кандрацюк

Святы Юры ахоўваў жывёлу перад дзікай звярынай. Найбольшай пагрозай у мінулым былі ваўкі. І вось, каб „завязаць" ваўкам зубы, нашыя продкі прымянялі магію. Яны выганялі на папас коней у ноч перад святам Юр'я. Уначы пастухі і жывёла качаліся ў траве. Нашыя продкі верылі ў жыццядзейную моц юр'еўскай расы. Яна мела паспрыяць сіле. Дзяўчаты, у сваю чаргу, мылі расой твары, каб пазбыцца вяснушак і вугроў.

Яшчэ ў часы майго дзяцінства нашыя старажылы апавядалі што на Юр'я „іграе" сонца. Падумаеце — як жа іграе сонца? Яно патрапіць выходзіць са сваіх кругоў, двоіцца ды троіцца, мяняць колеры і выпускаць вясёлкавыя кругі. Такі знак лічыўся шчаслівым. Ён прадвяшчаў удачу ў гаспадарцы на цэлы год. А калі сонца ўбачыць нежанаты, ён абавязкова ажэніцца і завядзе шчаслівую сямейку. З'ява найчасцей адбывалася ў час усходу сонца, таму маладзёны, якія выпраўліся з канямі на першы начны папас, з нецярплівасцю чакалі ўзыходу сонца.

ЗОРКА

# Музыка з кайфам

## „Laterna magica" — было, але не мінула




Менскі кабарэ-бэнд знойку ў атацы. Нібыта зніклі на нейкі час пасля апошняга альбома „Сердечная мускулатура", а ўжо зараз гэтак званы апошні альбом мае новы загаловак. „Laterna magica" гэта падарожжа праз гісторыю кінакультуры, якая пачатак бярэ ў XIX стагоддзі.

Кабарэ-бэнд „Серебряная свадьба" гэта ўжо свая гісторыя. Гурт арыгінальны, бо неабмежаваны рамкамі фолька, метала ці рока. Слова „кабарэ" безумоўна звяртаецца да французскай культуры, элементы якой сталі адначасова характэрнымі рысамі бэнду. Усё гэта вызначае стыль гурту, які падкрэслены ў гучанні ці ў касцюмах музыкаў.

„Laterna magica" абазначае „чароўны ліхтар", цудоўную тэхніку, якая яшчэ да кінаапарата братоў Люм'ер дазваляла дэманстраваць кіно і аваладваць людскімі мазгамі. Як у мінуўшчыне, так і ў выпадку новага альбома „Серебряной свадьбы" песні ў першую чаргу выклікаюць эмоцыі. Кожная з іх гэта гісторыя як у кіно, перад якой стаіць задача напалохаць слухача, распавесці неверагодную гісторыю будзённага дня ці павесяліць або схапіць знянацку. Амаль усе песні напісала лідарка гурту Святлана Бень, якая ўвасабляе свой бэнд ды падкрэслівае яго характар і, як гэта бывае ў выпадку беларускіх вакалістак-акцёрак (такім прыкладам з'яўляецца таксама Ганна Хітрык з „Soundukа", раней „Дзецідзяцей") захапляе энергіяй ды харызмай. Харызмы і энергіі хопіць пэўна і новым кампазіцыям, бо Святлана, таксама ў новай ролі маці, стварае новую, безумоўна магічную гісторыю ў сваім жыцці. А магіі больш у гэтым альбоме, бо ў час яго запісу гурт карыстаўся даўно адкінутымі, забытымі тэхнікамі, каб гук быў зусім арыгінальны і своечасовы.

Хаця некаторым „Серебряная свадьба" не падыходзіць, бо не спявае наогул па-беларуску, то ўсё ж такі трэба сказаць, што гэта ўнікальны гурт. Гурт, які свядома стварае музычныя гісторыі, так на дысках, як і ў час канцэртаў. У час жывых выступаў гурт захапляе публіку рэквізітамі, касцюмамі, аранжыроўкамі, таму можна крыху зайздросціць удзельнікам першых канцэртаў з цыкла „Laterna magica", бо напэўна будзе гэта магічны час.

i_basovka@o2.pl

# Польска-беларуская крыжаванка № 18

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

Адказ на крыжаванку № 14:

Адвага, сітка, шум, іржа, шыпшына, аўра, тын. Шыба, суп, імшар, гіт, іно, мары, марафон.

Узнагароды, кашульку з лагатыпам „Зоркі", выйгралі **Лукаш Марчук, Іза Бароўская** з Нараўкі, **Вікторыя Артэмюк, Патрыцыя Міхальчук, Анджаліка і Адам Сцепанюкі** з Бельска-Падляшскага, **Каміля Навіцкая, Адрыян Бугвін, Мая Мішчук** з Арэшкава, **Агата Беразавец** з Нарвы, **Сандра Пятроўская, Інэз Дмітрук, Мартына Леанюк** з Орлі. Віншуем!

| | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Uczeń | | Echo | | Kula | | | | | |
| Uran | | | | | Półka | Gołąb | Komar | Błysk | |
| Czaszka | | | | | | Żyły | | | |
| | | | Szpak | Awans | | | | | |
| Dach | | | Hełm / Szpic | | | | | | |
| Oko | | Szpinak / Szpic | | | | | | | Poród |
| | Spacer | | | | | | | But | |
| | Pika | | | | | Ar | No | | |
| | | | | | Anoda | | | | |
| | Klik | | Szproty | | | | | | |

**Тэкст і фота Уладзіміра СІДАРУКА**

# Пенсіянерская моладасць

**18 красавіка ў Гмінным асяродку культуры ў Чаромсе адбыўся Раённы агляд мастацкіх калектываў, якія дзейнічаюць пры Польскім саюзе пенсіянераў і інвалідаў. Заявы ўдзельнічаць у аглядзе прад'явіла адзінаццаць гуртоў з паўднёва-ўсходняга Падляшша — ад Драгічына Сямятыцкага павета па Міхалова, што пад Беластокам. Прыехала дзесяць калектываў. Арганізатарамі мерапрыемства выступіла Ваяводскае і Раённае праўленні Саюза польскіх пенсіянераў і інвалідаў ды Гмінны асяродак культуры ў Чаромсе. Варта адзначыць, што мерапрыемства такога рангу арганізавалася ў пасёлку ўпершыню. Мясцовым пенсіянерам гонарам было прымаць такі шматлікі калектыў гасцей. Гэта быў таксама шанц для лакальнай грамадскасці паўдзельнічаць разам з пенсіянерамі ў культурным мерапрыемстве. На жаль, гэтай магчымасцю чарамшане не пакарысталіся.**


Кабарэ „Незапамінайка" з Міхалова

Калі я заходзіў на дзесяць мінут да пачатку агляду, у зале заспеў некалькі груп прыезджых гасцей. Мясцовых жыхароў можна было палічыць на пальцах. Неўзабаве аўдыторыю папоўнілі ганаровыя госці, у тым ліку журы з трох чалавек, войт Юры Шыкула ды лідар чаромхаўскіх пенсіянераў Юзаф Дубковіч. Надта малая прысутнасць паставіла арганізатараў у двухсэнсоўнай сітуацыі: пачынаць агляд, ці чакаць падыходу публікі. Але зала не папаўнялася. Неўзабаве імпрэза пачалася.

З прывітальным словам выступіла дырэктар ГАК Барбара Кузуб-Самасюк, якая прывітала гасцей, пазнаёміла з праграмай і з маючымі выступіць калектывамі. Першымі на сцэну выклікала гурт „Арляне" з Орлі пад кіраўніцтвам Мікалая Фадзіна. Згодна правілам, калектыў выканаў тры песні. На прывітанне, быццам гімн, прагучала песня „Шчасце адно на свеце". Затым былі „Ой, у полі крыніца" і „Там каля млына". У вакальнай групе „Арлян" выступае двух мужчын: кіраўнік гурту (гарманіст) Мікалай Фадзін і Янка Стасюк з Пашкоўшчыны. Гэта мой сябра з 1960-х гадоў. Рады былі мы сустрэчы. Успомнілі мінулае ды падзяліліся навінкамі. Усё ж такі Орля з Пашкоўшчынай не за гарамі...


Люба Гаўрылюк (у цэнтры) быццам матылёк кружылася па зале, заахвочваючы іншых да танца

Пакуль да выступу рыхтаваўся чарговы калектыў, слова ўзяў войт Юры Шыкула. Пазнаёміў ён сабраных з ландшафтнымі каштоўнасцямі гміны, намякнуў пра мінулае Чаромхі (у ходзе агляду дэманстраваліся слайды старых здымкаў), спаслаўся на дасягненні дынамічна працуючай прафсаюзнай арганізацыі, затым рэкамендаваў гасцям праведаць наваколле. У заканчэнні войт пажадаў выступаючым гуртам поспехаў у конкурсным змаганні.

На сцэну выйшлі „Малінкі" з Малінік. Гурт зарэкамендаваў фальклорныя песні са свайго наваколля — „Па далінам і па горам", „Сходыт сонцэ і заходыт" і „Там за гаём, гаём". Пасля калектывы змяняліся як у калейдаскопе. За „Малінкамі" выступіла кабарэ „Незапамінайка" з Міхалова (упершыню гасцявала ў Чаромсе). У адмыслова падрыхтаваным мантажы госці паказалі будні сучаснай чыгункі. Даволі спраўна спалучылі тэкст верша Юліяна Тувіма „Лакаматыў" з папулярнымі песнямі „Суліко", „Як добжэ нам здобываць гуры" ці „Сёньдзь до поцёнгу быле якего". Замененыя тэксты ў сатырычнай афарбоўцы дакладна адлюстроўвалі сучасны стан чыгункі. У выніку атрымаўся ўдалы спектакль.

Марыя Мароз з Новага Беразова была адзінай салісткай. Пад акампанемент гітарыста і гарманіста Пятра Скепкі выканала „А ў гародзе вэрба росла" і „Пасадзіла агурочкі". Цудоўны голас, мастацкае выкананне спадабаліся публіцы і журы, аб чым сведчылі бурныя воплескі. Хачу адзначыць, што гэтыя песні вядомыя былі і ў нашым асяроддзі. Памятаю з юнацкіх гадоў як спявалі мы іх на кузаўскіх вячорках. У час размовы Марыя Мароз выявіла, што песні спявае ад дзяцінства. Пакахала яна песню як самую душэўную сяброўку. „І так застанецца па апошнія дні", — канстатавала ў заканчэнні.


Калектывы ацэньвала журы ў складзе (справа): Ян Буйко, Станіслаў Малеўскі (старшыня) і Аляксандр Хшаноўскі

Чарговымі выступілі жанчыны з вёскі Чаромха — добра вядомыя ў наваколлі пявунні. Выступаюць яны на гмінных імпрэзах, удзельнічаюць у спаборніцтвах і конкурсах. Праспявалі яны „Ой, чыя то хата", „Там у полі Ірка" і „Ой, там на ганку".

Гурт „Нараўчанкі" гасцяваў ужо ў чаромхаўскіх пенсіянераў. Выступалі яны з канцэртам, удзельнічалі ў супольным застоллі, пакінулі па сабе ў Чаромсе самы лепшы ўспамін. У іхнім рэпертуары беларускія народныя песні — „Горыла сосна", „Ой, закувала сіва зязюля", „Еxаў Ясь на кані". Развітваючыся з публікай лідар гурту заявіла: „Спяваем беларускія песні, бо хочам падтрымаць сваю культуру." — „У нас жывуць не толькі беларусы, але і ўкраінцы, ды грамадзяне іншых нацый", — папракнула яе вядучая мерапрыемства.

Упершыню на Чарамхоўскай сцэне выступілі „Цаглінкі" са Старога Ляўкова (спадзяюся, што не апошні раз). Цудоўныя ўборы, мастацкае выкананне заваражылі публіку і журы. Кіраўніком фальклорнага калектыву з'яўляецца дырыжор і акампаніятар Мікалай Мяжэнны з Беларусі. Гурт запрэзентаваў чатыры песні: „Ой, каліна, ой маліна", „Любіла казачэнька", „Ехалі казачэнькі" і „Выганяй маці каваля з хаты".

Пасля яшчэ выступілі „Вульчанкі" з Вулькі-Тэрахоўскай, „Рэчанька" з Козлікаў Заблудаўскай гміны і Хор сеніёра з Драгічына. У выкананні „Вульчанак" прагучалі дзве песні — „І шуміт, і гудэ" і „Там у вышнёвуму саду". На асаблівую ўвагу заслугоўвае калектыў „Рэчанька" з Козлікаў. Лідарам гурту з'яўляецца вядомая беластоцкай публіцы Ала Каменская, дачка не менш вядомай Любы Гаўрылюк, сейбіткі беларускай песні. Калектыў запрэзентаваў нізку беларускіх песень. Пры акампанеменце гармоніка паплылі задушэўныя мелодыі пра каханне і любоў да акружаючай прыроды. Развітваючыся з публікай Ала Каменская сказала: „Прыплыла „Рэчанька" ў Чаромху і зараз адплывае".

З Любай Гаўрылюк меў я нагоду пазнаёміцца на зломе піцідзесятых-шасцідзесятых гадоў, калі працаваў інструктарам у Гайнаўскім аддзеле БГКТ. Сустракаліся мы тады на бэгэкатоўскіх імпрэзах, папулярных тады на Беласточчыне. У пазнейшы час пазнаёміўся я і з дачкою, якая канцэртавала з беластоцкімі „Каласкамі" на беларускіх фэстах у Чаромсе і Кляшчэлях. Калі я падаўся ў кавярэнку, каб пагаварыць з Любай Гаўрылюк, агляд завяршыўся выступленнем Хору сеніёра з Драгічына. Такім чынам я не змог яго паглядзець. Вярнуўшыся ў залу, заспеў я ўжо віруючыя ў танцы пары. Журы падалося на пасяджэнне. У перапынку пачалася забава. І тут я прыкмеціў Любу Гаўрылюк. Адзінока, быццам матылёк, кружылася па зале, заахвочваючы іншых да танца. Паплылі песні, нашыя, беларускія. Спявалі харысткі з Козлікаў, „Вульчанкі" з сяброўкамі з вёскі Чаромхі. Прыемна было глядзець на вясёлую расспяваную кампанію. Шкада адно, што чарамшане не маглі таго пабачыць. Не стану каментаваць прычыны так малой прысутнасці публікі на аглядзе. Ацэнку гэтаму дадуць жыхары гміны мясцовым арганізатарам. А калектывы ацэньвала журы ў складзе: Станіслаў Малеўскі (старшыня), ды члены Ян Буйко і Аляксандр Хшаноўскі, які прэзентаваў Ваяводскае праўленне Саюза польскіх пенсіянераў і інвалідаў. Усім калектывам былі ўручаны ганаровыя граматы за ўдзельніцтва ў аглядзе. Гурты „Рэчанька" з Козлікаў і „Цаглінкі" са Старога Ляўкова будуць 30 траўня выступаць як лаўрэаты Раённага агляду на Ваяводскім гала-канцэрце. У заканчэнні варта адзначыць, што чаромхаўскія пенсіянеры з належнай пашанай прынялі гасцей. Падрыхтавалі смакавіты пачастунак. Гэта прызнаў мой сябра Янка Целушэцкі з Новага Ляўкова, які спадарожнічаў „Цаглінкам". І за гэта гаспадарам належацца словы прызнання.



Тэкст і фота
Аляксандра ВЯРБІЦКАГА

# Тупанне каля Нетупы (2)

Выйшаў я да царкоўкі, што за Старою Грыбоўшчынай, і паказалася мне карціна, якой я не спадзяваўся. А спадзяваўся я пабачыць запушчаны будынак, з адпадаючым тынкам, з падгніваючымі вокнамі, з ржавеючым дахам, з пахіленымі крыжамі... Але на будынку царквы крыжоў не было, затое быў ён ачэплены шчыльнымі рыштаваннямі і каля яго працавала некалькі работнікаў. Завёў я з імі гутарку і патлумачылі яны мне, што рыхтуюць падклад для крыцця будынка бляхай, а крыццё гэтае зробіць іншая ўжо фірма. Зменена ўжо частка ўстарэлых акон і неўзабаве будуць абноўлены і апошнія вокны. Царква мае быць пакрыта зялёнай бляхай, а „цыбулькі” атрымаюць пазалоту. Пра больш канкрэтаў мае субяседнікі не ведалі.

З першага ходу думак ахапіла мяне здзіўленне, што так размашыста выпраўляецца аб'ект, хай сабе і рэлігійнага прызначэння, які для гэтых мэт ужо там мала каму здаецца быць патрэбным. Але з часам наведала мяне думка, што ўсё ж такі нават пра такі аб'ект трэба паклапаціцца. Бо ў шматлікіх турдаведніках пра гэтае старонне згадваецца гэтая царкоўка і акалічнасці яе ўзвядзення, а ў наваколлі пралягаюць „напалеонаўскія” і „татарскія” турмаршруты. І трэба неяк задбаць пра яе прыстойны выгляд...

Царкоўку каля Старой Грыбоўшчыны пабудаваў у міжваенных гадах жыхар гэтай вёскі Ілья Клімовіч. Але праславіўся ён акурат не гэтым будаўнічым пачынам, але небывалым на гэтых землях узбуджэннем агромнай рэлігійнай актыўнасці насельніцтва з вельмі шырокага наваколля. Гэтая грамадская з'ява задзівіла шырокія кругі даследнікаў грамадскіх паводзін, бо ж сам пачынальнік гэтай рэлігійнай хвалі быў простым мужыком, а не, як бы сёння такога назвалі, носьбітам звання spin doctor, спецыялістам у галіне public relations. І не ў галаве ў яго былі такія прыёмы, якія ў паралельны яму час прымянялі савецкія палітрукі. Атрымаў ён спартанска-рэлігійнае выхаванне і гэтага хапіла для вызвалення адмысловага рэлігійнага зараду; адбылося гэта ў зусім невыпадковы момант, у спрыяльных грамадскіх абставінах.

Выкліканы мною рэлігійны зарад асацыюецца мне з зарадам электрычным. Гэта, здаецца мне, нешта такое, што пры назапашаным патэнцыяле можа нават успыхнуць свайго роду кароткім замыканнем, асаблівай маланкай. У нябёсах, паводле грэчаскай міфалогіі, гуртаваннем электрычнага патэнцыялу і грознай маланкавай разрадкай займаўся Зеўс, на зямной жа нашай ніве вырабам электрапатэнцыялу займаюцца будаўнікі электрастанцый; вырабам рэлігійнага патэнцыялу займаюцца прарокі, якія часам даводзяць да адносна магутных успышак — грамадскіх бур. У Старой Грыбоўшчыне гэтага не адбылося, хаця ў іншых частках свету такія з'явы з большай ці меншай магутнасцю праяўляліся. Аднак пра гэтую электрычна-рэлігійную асацыяцыю будзе крыху далей, а цяпер яшчэ пра самога Ілью Клімовіча, якога ў простанароддзі і сталі называць прарокам. Ягоная дзейнасць абрасла легендамі, у якіх і смех, і грэх. Магчыма, што шмат там выдумак, але і шмат праўды. Шмат пра падзеі ў Старой Грыбоўшчыне напісаў Аляксей Карпюк у „Вершалінскім раю”, бо ж галоўныя падзеі адбываліся ў час ягонага дзяцінства ў трыццаці пяці кіламетрах ад ягонага роднага Страшава. Пісаў ён на аснове апавяданняў вачавідцаў тых падзей. Падкіну да гэтага крыху і я, прывяду ўспамін пра Ілью Клімовіча ад Уладзіміра Утко, ураджэнца Студзёнкі, вёсачкі, якая калісь была недалёка будаванага прарокам Вершаліна.



Роспіс купала грыбоўскай царквы

Царкву ў Старой Грыбоўшчыне людзі дапамагалі будаваць, — расказваў спадар Утко. — Перашапачатковым фундатарам яе быў брат Ільі, стары кавалер, які раней быў паліцыянтам у Сакольцы і назбіраў за час службы грошай; сам Ілья выконваў пачаткова работу майстра. Ілья вынес з маладых гадоў не найлепшую характарыстыку, гаварылі, што з канакрадамі хадзіў і ў нас ніхто яго святым не лічыў. Бываў у нас, мяне на рукі браў, частаваў яблыкамі і цукеркамі. Аднойчы меў да бацькі справу, тады, калі папы хацелі яго ў манастыр загнаць і ён у лес уцёк, хаваўся, пабойваўся, бо не ведаў, што з гэтага атрымаецца. Мой бацька тады ў лесе пянькі выкопваў. Ілья папрасіў, каб бацька паклікаў да яго адну з ягоных прыслужніц. Пагаварыў ён з ёю, а пасля паклікаў бацьку і папрасіў, каб ён тую бабу за сто злотаў завёў да сакольскага старосты. Гаварылі, што яна занясла таму старосту кілаграм золата і староста напісаў дакумент, што ніхто не мае права чапаць Ілью; тады ад яго духоўныя чыны адчапіліся. Пазней, калі пагрозы мінулі, купіў ён ад ляшчанцаў каля ста гектараў зямлі, пабудаваў там хату, а затым двухпавярховы гатэль і шпіталь, былі выліты фундаменты пад новую царкву. Будавалі мясцовыя і чужыя; нашы, калі раней будавалі царкву каля Старой Грыбоўшчыны, то грошай не бралі, але шпіталь і гатэль будавалі за грошы. Калі насталі саветы, разабралі тыя аб'екты на вясковыя школы: шпіталь у Лешчаны, а гатэль у Востраў.

З аграмаднага праекта пабудовы комплекснага санктуарыя не асталося да нашага часу па сутнасці нічога, бо ж царква, якая захавалася каля Старой Грыбоўшчыны, была збудавана раней новай вялікай задумы. І цяпер яна стаіць вельмі самотна. І гэты, пабачаны мною бойкі рамонт наклікаў на мяне новыя думкі. Пад Спаса прыедзе ў Польшчу маскоўскі патрыярх Кірыл і, хто ведае, можа і туды захоча заглянуць, бо ж будаўнік грыбоўскай царквы быў гарачым паклоннікам Іаана Кранштацкага, які цяпер у ліку святых Рускай Праваслаўнай Царквы. Можа зноў завітала задума заснаваць вакол гэтай царкоўкі манастыр, як было гэта ў час, калі гродзенскія царкоўныя чыны пастрыглі ў манахі Ілью Клімовіча, а ён, калі акрыяў, тое атрыманае ад іх аблачэнне скінуў і патаптаў. Калі б не пагарда для царкоўнага афіцыёзу, можа і ён атрымаў бы арэол...

Вярнуўся я назад у Старую Грыбоўшчыну. У вёсцы ўзводзяцца новыя аб'екты, сезоннага, значыць летняга, прызначэння. Адзін з такіх аб'ектаў мае выгляд вялікай паветкі, пад якою пастаўлены жылыя кантэйнеры — быццам келлі для самотнікаў. Можна было б з такіх элементаў і манастыр пабудаваць, толькі ў нашым клімаце цяжка было б там зімаваць. А для летнікаў, скажам накшталт „Oazy” — незалежна ад канфесійна-адміністрацыйнага падпарадкавання, такі модульны аб'ект нават быў бы цалкам зручны для разгортвання і згортвання ды, здаецца, не надта дарагі.

У Гуранах спытаў я жыхара адной з першых хат пра краму. Аказваецца, што сталай крамы ў Гуранах, некалі даволі людной вёсцы, ужо няма. Была яна да лютага гэтага года, аднак аўтакрамы давялі да спаду яе ўтарговак; крамніца сварылася з вадзіцелямі, аднак не дало гэта выніку і сталую краму прыйшлося закрыць. Мой субяседнік выказаў меркаванне, што ўлады зараз будынак той крамы прададуць, як гэта сталася ў недалёкім Новым Востраве, дзе новы ўладальнік ужо пачаў рамонт. У Гураны, паводле раскладу язды на тамашнім прыпынку, заязджаюць два аўтобусы: адзін у панядзелак, а другі ў чацвер. А калі гэты расклад з часу яго вывешкі змяніўся, дык можа іх быць яшчэ менш...

З Гуран накіраваўся я ў Падліпкі пабачыць тамашні касцёл. Афіцыйны сайт Беластоцкай архідыяцэзіі так піша пра яго: „Placówka duszpasterska w Podlipkach została utworzona z inicjatywy mieszkańców okolicznych wsi przy aprobacie dziekana krynkowskiego ks. Stanisława Mikulskiego, który 16 XI 1947 r. poświęcił drewniany kościółek, pokryty słomą, przerobiony ze stodoły. Pod kościół i plebanię oddała swoją ziemię Franciszka Radziewicz, mieszkanka Podlipek. W 1951 r. zostały dobudowane dwie zakrystie, prezbiterium i ołtarz główny. Dnia 16 VII 1951 r. z polecenia arcybiskupa metropolity Romualda Jałbrzykowskiego rozbudowany kościół poświęcił ks. prałat Adam Abramowicz. Parafię erygował abp Stanisław Szymecki 20 V 1994 r. Wydzielono ją z parafii Krynki i Szudziałowo”.



Касцёл у Падліпках

Крыху іншы змест нясе адмысловая табліца, пастаўленая насупраць касцёла: „Pośród gęstych lasów stanowiących część Puszczy Knyszyńskiej w małej osadzie liczącej w 1930 roku 9 domostw o pięknej nazwie Podlipki, już przed II wojną, jej mieszkaniec Ludwik Radziewicz twierdził, że w tym miejscu powstanie kościół. Jego proroctwo musiało poczekać na realizację do 1947 roku. Inicjatorką powstania kościoła była Pani Franciszka Radziewicz, nazywana przez miejscowych „Ciocią Franią”. „Ciocia Frania” ofiarowała swoją ziemię pod nową kaplicę. W 1994 roku placówka duszpasterska w Podlipkach otrzymała tytuł Parafii”.

У апошняй вытрымцы маем слова „proroctwo”, значыць, і тут з'явіўся быў прарок...

*(працяг будзе)*


Удзельнікі Рэспубліканскіх Купалаўскіх чытанняў каля помніка Цёткі ў г.п. Астрына Шчучынскага раёна

Сяргей ЧЫГРЫН

# Купалаўскія чытанні прайшлі на радзіме Цёткі

Рэспубліканскія Купалаўскія чытанні, прысвечаныя 130-годдзю з дня нараджэння Янкі Купалы, адбыліся на Гродзеншчыне. Арганізатарам гэтых чытанняў ужо ў дзевяты раз з'яўляюцца выкладчыкі і студэнты філалагічнага факультэта Гродзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Янкі Купалы.

На гэты раз традыцыі Купалаўскіх чытанняў былі трохі парушаны, таму што яны адбыліся не толькі ў аўдыторыях універсітэта, але і ў Шчучынскім раёне.

На пленарным пасяджэнні ўдзельнікаў Купалаўскіх чытанняў шчыра віталі кіраўніцтва ўніверсітэта ў асобе прарэктара па навуковай рабоце і інавацыях Генадзя Хацкевіча, дэкана філалагічнага факультэта Іны Лісоўскай, загадчыка кафедры беларускай літаратуры Дзмітрыя Лебядзевіча. Цэнтр творчасці Гродзенскага ўніверсітэта выступіў з літаратурна-музычнай кампазіцыяй „Песню зямля ўскалыхала" па творах народнага песняра.

Пасля пленарнага пасяджэння ўдзельнікі канферэнцыі выехалі ў Шчучынскі раён, дзе яны ў вёсцы Стары Двор наведалі магілу вялікай беларускай паэткі Алаізы Пашкевіч (Цёткі) і ўсклалі на яе магілу кветкі.

Працяг Купалаўскіх чытанняў адбыўся ў сярэдняй школе імя Цёткі ў Астрыне. Пазнаёміўшыся з экспанатамі школьнага музея Цёткі, навукоўцы пачалі сваю працу. Жыццё і творчасць Янкі Купалы падчас выступленняў разглядаліся ў самых розных аспектах. Цікава і па-навуковаму ішла гутарка пра Янку Купалу і актуальныя праблемы мовазнаўства, пра купалазнаўства ў вышэйшай і сярэдняй школах, пра сучасную навуку ў гонар нашага песняра і г.д. у дакладах навукоўцаў з Гродна, Брэста, Мінска, Мазыра, Магілёва, Слоніма, Баранавіч.

Прафесар Іван Лепешаў з Гродна у сваім выступленні арыгінальна і захапляюча распавёў пра функцыянальна-стылістычнае выкарыстанне фразеалагізмаў у п'есе Янкі Купалы „Тутэйшыя", а кандыдат філалагічных навук Пятро Васючэнка з Мінска — пра жыццёстваральную місію песняра, прафесар Аляксей Пяткевіч з Гродна — пра матывы лірыкі Янкі Купалы, кандыдат філалагічных навук Генадзь Праневіч з Брэста спыніўся на прыродзе і чынніках мастацкага феномену Купалы-песняра. А кандыдат філалагічных навук з Мазыра Тамара Нуждзіна распавядала ўдзельнікам Купалаўскіх чытанняў пра Янку Купалу ў творчым лёсе Ніла Гілевіча. Спіс выступоўцаў можна працягваць.

Пахвальна і тое, што разам з вопытнымі даследчыкамі жыцця і творчасці Янкі Купалы, на суд слухачоў свае навуковыя працы вынеслі і настаўнікі, аспіранты, студэнты вышэйшых навучальных устаноў рэспублікі. Яны даследуюць антрапанімію ў творчасці Янкі Купалы, субстантыўную фразеалогію ў творах песняра, выкарыстанне тэхналогій французскай педмайстэрні пры вывучэнні лірыкі Янкі Купалы, спецыфіку выкарыстання новых форм урокаў пры вывучэнні творчасці Янкі Купалы ў школе, Янка Купалу ў сучаснай інфармацыйнай прасторы і г.д.

Другі дзень Купалаўскіх чытанняў адбыўся ў Гродне. Ён пачаўся памінальнай службай „Вечны спакой дай ім..." Івану Луцэвічу і Алаізе Пашкевіч у касцёле Дабравешчання Найсвяцейшай Дзевы Марыі і кляштара брыгідак. І завяршыўся „круглым сталом" пад лозунгам „Спадчына Янкі Купалы і славянскія літаратурныя традыцыі".

Упершыню плануецца выданне асобнай кнігай усіх дакладаў 9-х Рэспубліканскіх Купалаўскіх чытанняў.




# http://oldmensk.net

Старыя фотаздымкі маюць нешта магічнае. Яны, як вокны ў мінулае, адкрываюць нам тое імгненне, якое было зафіксавана фатографам, чые імя наўрад ці ўжо магчыма згадаць. Глядзець на стары здымак — гэта як пераносіцца на машыне часу ў далёкую і не вельмі далёкую гісторыю, прычым гісторыю сапраўдную настолькі, наколькі дазваляе ўласная фантазія таго, хто глядзіць. Але пры ўсіх вялікіх магчымасцях для фантазій старыя фотаздымкі ўтрымліваюць значны факталагічны патэнцыял, бо яны збольшага даюць нам дакладныя і аб'ектыўныя даныя аб месцы і часе зафіксаванай рэальнасці.

Цяпер цяжка ўявіць сабе вывучэнне гісторыі апошніх амаль паўтары сотні гадоў без фотаматэрыялаў. І вельмі моцна яны дапамагаюць у вывучэнні гісторыі гарадоў, бо гарадское аблічча змяняецца з пабудовай новых будынкаў альбо са змяненнямі напрамкаў дарог.

Адным з інтэрнэт-рэсурсаў, які, як віртуальны фотаальбом, змяшчае стос старых здымкаў, з'яўляецца сайт пра сталіцу Беларусі. Яго назва адразу вызначае яго тэматыку і накіраванасць: „Менск на старых фотаздымках".

Месціцца даны сайт па адрасе **http://oldmensk.net.** Выглядае даволі проста — дзве часткі: першая правая змяшчае выйсці на рубрыкі, а другая — тэксты. Галоўная старонка сайта адначасова з'яўляецца месцам навінных паведамленняў, якія тычацца як мінулага Мінска, так і яго цяперашніх рэалій. Прыемна бачыць, што даволі часта абнаўляюцца навіны, што ўказвае на руплівую працу стваральнікаў і натхняльнікаў партала.

Больш дакладна асэнсаваць ідэю стварэння сайта „Менск на старых фотаздымках" дапамагае старонка „Замест прадмовы". Там няма нічога, акрамя верша „Менск і Мінск", што выдатна перадае накіраванасць партала. „Мы жывем адначасова ў двух гарадах/ Падваеньне асобы зрывае нам дах./ Дык няўжо ж нам ніколі ня склеіць, ня сшыць/ Менск і Мінск — дзьве паловы сталічнай душы/... Горад Менск — першы горад з тых двух гарадоў,/ Не пабачыш на мапах сучасных гадоў./ Ён у сэрцы жыве, ён жыве ў галаве/ Шмат каго, хто ў горадзе Мінску жыве./ А ў тым Мінску прапіска і гарвыканкам,/ Лядовы палац і бэтонны паркан,/ Зруйнаваных дамоў цені прывідныя/ І дзяцінства майго праляцелыя дні/...Усё блытаецца/ У Мінску — хлеб і маца,/ І Вялікі Кастрычнік і Радаўніца/ І пьяная сьляза, і такая папса,/ Што ратунку ня дасьць ні мізім, ні упса./ Ну, а з Менскам нічога ня можна зрабіць — / Немагчыма яго зруйнаваць, захапіць,/ Ён ніколі, твой Менск, не згіне, ня згарыць,/ Будзе мовай тваёю з табой гаварыць".

Большасць астатніх рубрык сайта, натуральна, змяшчаюць фотаздымкі старога і сучаснага Мінска. Прычым, напрыклад, у рубрыцы яны падзелены на чатыры часткі — да і пасля рэвалюцыі 1917 года, да і пасля вайны 1941-1945 гадоў.

Дзве старонкі з дзіўнай назвай „Шукаем ракурсы" прызначаныя для здымкаў, што нясуць у сябе інфармацыю аб зніклых будынках і вуліцах. Гэта, як кажуць невядомыя ўладальнікі сайта, „пазнавальныя мясціны, але ракурс якіх вызначыць цяжка".

Паколькі збіранне старых фотаздымкаў вымагае кантактаў з як мага большай колькасцю людзей, то аўтары запрашаюць да супрацоўніцтва віртуальных наведвальнікаў. Аб умовах супрацоўніцтва паведамляецца на старонцы „Супраца (як далучыцца)".

**Уладзімір ЛАПЦЭВІЧ**

# Беларусі скарбы

**Радуньская старонка**

За савецкі час мястэчка Радунь страціла сваё адміністрацыйнае значэнне. Адміністрацыйны цэнтр раёна перамясціўся ў Воранава, якое не можа пахваліцца ні адметнымі помнікамі архітэктуры, ні шэрагам выдатных асоб, ні яркімі падзеямі сівой даўніны. Іншая рэч — радуньская старонка, якая не пралягае на асноўных турыстычных шляхах, але зберагае ў летапісе слаўныя падзеі і адзнакі. У нас часта жартуюць так: ваўкавыскія габрэі стварылі Ізраілю войска, валожынскія — далі палітыкаў, а радуньскія — стварылі культуру і асвету. І ў гэтым сцвярджэнні значная доля праўды. Але дзеля гістарычнай праўды скажам, што Радунь была цікавай і да шырокага рассялення ў ёй „абранага народу".

Першая згадка ў летапісе пра гэтую мясцовасць была зафіксаваная ў дакуменце пад гучнай назвай „Манумэнта Германіка", які датаваны ажно 1217 годам і звязаны з нашэсцем крыжакоў. Наступная гістарычная звестка — гэта падзяляльны акт 1387 года паміж каралём Ягайлам і вялікім князем Скіргайлам, калі Радунь была цэнтрам воласці. У XIV-XVII стст. непадалёк ужо стаяў Радуньскі замак як вялікакняжацкае ўладанне. Менавіта тут быў падпісаны шлюб Барбары Радзівіл і Станіслава Гаштольда. У 1679 годзе Радунь атрымала магдэбургскае права, якое было пацверджана прывілеямі каралёў Рэчы Паспалітай Яна III Сабескага і Аўгуста III. У другой палове XVIII стагоддзя Радунь была прыватным уладаннем і належала Юзафу Тышкевічу. 23 чэрвеня 1792 года атрымала герб з выявай чырвонага рака на сярэбраным полі.

Галоўным архітэктурным помнікам Радуні сёння з'яўляецца Касцёл Маці Божай Ружанцовай, пабудаваны Антонам Бейкам паводле праекта Яна Бароўскага. Першы драўляны касцёл быў пабудаваны ў 1556 г., а сучасны ўжо за „польскім часам" з вялікіх часаных камянёў. Цікава, што стаіць гэты вялізны храм, які вельмі цяжка цалком ахапіць аб'ектывам фотаапарата, не ў цэнтры мястэчка.

З беларускіх руплівцаў, якіх дала мясціна, варта згадаць Пятра Бітэля, ураджэнца Радуні, пісьменніка, перакладніка, настаўніка, які прайшоў цяжкі жыццёвы шлях, зазнаў сталінскія рэпрэсіі, а пасля выхаду на волю стаў праваслаўным святаром. Адсюль паходзіць і акадэмік, вядомы навуковец Юрый Бандажэўскі, які за праўду пра згубныя наступствы чарнобыльскай радыяцыі пацярпеў ужо ад цяперашняй улады.

Захавалася ў Радуні старая габрэйская забудова, у тым ліку сінагога і будынак ешыбота, у якім выкладаў знаўца Талмуду і Галахі Новага часу рабін Ізраіль Меір Каган, які быў вядомы таксама пад прозвішчам Хафец Хаім. Гэта найбольш вядомае імя са шматлікіх прадстаўнікоў габрэйскай нацыі, што засялялі Радунь. Зараз яму стаіць там помнік. Мястэчка мела сусветную вядомасць, калі ў ім дзейла талмудыстычная духоўная акадэмія, у якую прыязджала вучыцца моладзь і з далёкага замежжа. На мясцовых могілках усталявана адметная кампазіцыя: на высокіх слупах зорка Давіда. А вось непадалёк Радуні месца пахавання паўстанцаў 1863 года дагэтуль не адзначана помнікам.

Ад ранейшых шматлікіх крамак і гандлёвых радоў застаўся толькі ўспамін, хоць у цэнтры Радуні і зараз можна трапіць на мясцовы дробны гандаль, які зберагае пэўны рэгіянальны каларыт. Яшчэ адной візітоўкай слаўнага некалі мястэчка служыць краязнаўчы музей, створаны найперш высілкамі мясцовага руплівіца старасветчыны Івана Фясенкі. Аднак, турыстаў у мястэчку пакуль няшмат. Патэнцыял Радуні пакуль спіць, як дрэмле ўся краіна, што не можа пакуль адрозніць сваю спадчыну ад чужынскага.

**Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

■ Георгі ЗЮЗЯ
Варшава

# Baltkrievija — Беларусь

27-29 сакавіка 2012 г. у мяне была магчымасць быць на «XV-th Meeting of Baltic Division of UNGEGN” (XV пасяджэнне Балтыйскага аддзела UNGEGN). UNGEGN гэта: United Nations Group of Experts on Geographical Names — Група экспертаў Арганізацыі Аб'яднаных Нацый па геаграфічных назвах. Канферэнцыя праходзіла ў сталіцы Латвіі — Рызе.

Сярод удзельнікаў канферэнцыі былі прадстаўнікі Беларусі, Латвіі, Літвы, Польшчы, Расеі, Украіны і Эстоніі. Прадстаўніком Рэспублікі Беларусь была дзяўчына ва ўзросце да 30 гадоў. Мне было цікава, ці гаворыць яна на беларускай мове. Аказалася, што гаворыць і нават вельмі добра. Мы гаварылі на роднай беларускай мове. Яна не філолаг, але географ. Закончыла Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт у Менску, працуе ў Цэнтральным геадэзічна-картаграфічным упраўленні Рэспублікі Беларусь. У сваім выступленні на канферэнцыі сказала, што ў Беларусі выступаюць беларусафобія і русафілізм, што часта мяшае вяртацца да гістарычных беларускіх назваў мясцовасцей.

Што зрабіла на мне моцнае ўражанне на канферэнцыі? Падчас канферэнцыі была выстава картаграфічных матэрыялаў з розных краін. Гаспадары канферэнцыі падпісалі на латышскай мове названні краін-удзельнікаў. Польшча на мове гаспадароў завецца POLIJA. Беларускі стэнд быў падпісаны: BALTKRIEVIJA (глянь: фота). Латышы, спрадвечныя суседзі беларусаў, называюць Беларусь сваёй традыцыйнай назвай. Маем тут спасылку на назву аднаго з беларускіх плямёнаў — крывічоў, этнічная тэрыторыя якіх на землях беларускай Полацкай дзяржавы Усяслава Чарадзея межавала з тэрыторыяй этнічных латвійскіх плямёнаў. Другая частка назвы: BALT адносіцца пэўна да таго, што беларускае Полацкае княства дасягала Балтыйскага мора, а Полацк быў ганзейскім горадам. Латышская назва BALTKRIEVIJA можа таксама быць пацвярджэннем тэзіса, што беларускі народ укшталтаваўся дарогай перамяшання славянскіх і балцкіх (яцвяжскіх, прускіх, летувіскіх, латышскіх, эстонскіх) плямён.

На канферэнцыі таксама гаварылася аб геаграфічных назвах мясцовасцей у Польшчы на польскай мове і мовах нацыянальных меншасцей. Галоўнае ўпраўленне геадэзіі і картаграфіі Польшчы апублікавала ў 2011 годзе тры карты Польшчы маштабу 1:500 000 у лічбавым (на CD) і друкаваным (фармат 140 x 130 см) варыянтах тыражом па 750 экземпляраў. Гэта геаграфічная, адміністрацыйная дзялення і пейзажная карты. На іх размешчаны назвы мясцовасцей на польскай мове і на мовах нацыянальных меншасцей, у тым ліку назвы беларускія. У Польшчы ў цяперашні час маецца 798 мясцовасцей з дадатковымі назвамі на мовах нацыянальных меншасцей. Сярод гэтых мясцовасцей толькі 25 з дадатковымі назвамі на беларускай мове. Дадатковыя назвы не выклікаюць патрэбы змены дакументаў жыхароў. Праціўнікі размяшчэння дадатковых назваў на беларускай мове часта нас палохаюць патрэбай змены дакументаў. А можа гэта таксама беларусафобія гмінных чыноўнікаў?

Усіх зацікаўленых у назвах мясцовасцей на мовах нацыянальных меншасцей і заканадаўчымі актамі аб іх у Польшчы запрашаю наведаць сайт http://ksng.gugik.gov.pl/nwjmwp.php



## Адгаданка

1. пустое месца ў ствале дрэва на месцы выгніўшай драўніны, 2. рад пакаленняў, якія выводзяцца ад аднаго продка, 3. расійскі парламент, 4. лірычны верш з чатырнаццаці радкоў, 5. напрыклад, Алабама, Санора, Мату-Гросу, 6. пасудзіна з ручкай для вадкасцей, 7. гармата для стральбы мінамі, 8. фальклорны партнёр каліны, 9. баба, фальклорная партнёрка дзеда Тамаша, 10. Пётр Міронавіч, першы сакратар ЦК КПБ у 1965-1980 гадах, 11. сыравіна для саломапляцення, 12. судня для буксіравання іншых суднаў.

Адгаданыя словы запісаць у вызначаныя дарожкі, пачынаючы ад поля з лічбай. У светлых палях атрымаецца рашэнне — пагаворка. **(ш)**

| | | | | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | 1 | 2 | | 3 | | | 4 | | |
| | 5 | | | 6 | | | | | | | | | | |
| | | 7 | | 8 | | | | | 9 | | | | 10 | |
| | | | | | | | | 11 | | | | | 12 | |

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя рашэнні, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 13 нумара**

Балет, бэз, бюст, Ваг, Лена, леў, шоў, Юон.

Рашэнне: **Любоў без шаленства гэта не любоў**.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Яну Міхалюку** з Чыжоў і **Уладзіміру Ахрымюку** з Беластока.


Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва”.
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.iig.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.iig.pl*
*Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Administracji i Cyfryzacji.*
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі”:** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Іаанна Чабан, Міраслава Лукша, Аляксей Мароз, Мацей Халадоўскі, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk”, Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy” prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH” na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH”), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, siedziba redakcji „Niwy”.
**Prenumerata krajowa**
Termin przyjmowania wpłat do 5-go dnia każdego miesiąca poprzedzającego okres rozpoczęcia prenumeraty.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „RUCH” i „KOLPORTER” na terenie całego kraju.
Cena prenumeraty kwartalnej: I kwartał — 32,5 zł., II kwartał — 32,5 zł., III kwartał — 35,0 zł., IV kwartał — 32,5 zł., rocznej — 132,5 zł.
**Prenumerata z wysyłką za granicę**
Wpłaty przyjmuje „RUCH” S.A. ul. Annopol 17a, 03-236 Warszawa; telefony: +48(22) 69-36-775, +48(22) 69-36-782, +48(22) 69-36-718; www.ruch.pol.pl
**Prenumerata w redakcji**
Planowana ilość numerów „Niwy” w 2012 roku — 53.
**Przesyłka zwykła:** Cena 1 egz. wraz z wysyłką w kraju wynosi 4,2 zł.

**Wpłaty przyjmuje: Rada Programowa Tygodnika „Niwa”,**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945

**Nakład**: 1 300 egz.


# 29.04 — 05.05

**(22.03. — 20.04.)** Тыдзень вельмі добры ва ўсіх сферах. На працы праявіш сябе з найлепшага боку, магчымыя грашовыя прыбыткі. Прыток сілы ў сярэдзіне тыдня паможа ўзяцца за неверагодна цяжкія справы і паставіць усё на ногі. Дома міла і мірна.

**(21.04. — 21.05.)** Дасканалая фізічная форма (дбай аб узровень кальцыю ў арганізме). Можаш узяцца за парадкаванне дому, рамонт. Будзь памяркоўным у сваіх напрамках і жаданнях; не перагні палку ў адносінах з блізкімі і не будзь лішне патрабавальным. Найлепш звядзі да нуля крайнія паводзіны.

**(22.05. — 22.06.)** Ты цяпер асабліва чулая, далікатная, эмацыянальная натура. Смела давярай сваёй інтуіцыі і кіруйся сэрцам ва ўсім, што тычыцца пытанняў фінансавага характару. Для спраў — планаў, сустрэч, дзеянняў — найлепшая першая палова тыдня. Магчымыя грашовыя прыбыткі, паправа матэрыяльнага становішча. Канец тыдня аддай сабе і сям'і.

**(23.06. — 23.07.)** Калі на твой лёс выпалі розныя беды, цешся — яны канчаюцца! Ды пры тваім актыўным удзеле, таму што ты — стваральнік свайго шчасця. Дзейнічай дзеля сябе, вядзі сябе разумна і абдумана, і справы пойдуць у лад. І не пасуй перад цяжкасцямі, павер у свае сілы і ахвоту.

**(24.07. — 23.08.)** Да 30.04. зробіш задуманыя змены. Сур'ёзна займіся самім сабою, вазьмі сябе ў рукі. Паявіцца ў цябе ахвота падзейнічаць сілай, ды такое не прывядзе да добрага рэзультату. Перагледзі сваю жыццёвую пазіцыю і падыход да праблем, падзейнічай інакш.

**(24.08. — 23.09.)** Рыхтуецца табе немалы рамантычны поспех. Будзеш прываблівым — людзі будуць проста да цябе ліпнуць. Пад канец тыдня магчымая раздражненасць ад людзей і іхніх паводзін. Спусці пару, бо інакш твая злосць можа адбіцца на кімсьці, хто паявіцца побач.

**(24.09. — 23.10.)** Пачатак тыдня добры для рамантычных сустрэч і заёмстваў, вечарынак. У сярэдзіну тыдня наляж на рабочыя справы, дарэчы, не вельмі цяжкія, хоць будзе пару складаных; трэба разабрацца ў паперах. Важны момант: можна будзе дабіцца даўно пастаўленай мэты.

**(24.10. — 22.11.)** Да 30.04. невычэрпныя сілы і трываласць. Ды на гэтым тыдні можаш нарабіць масу глупстваў і ў драбніцы, і ў большым, пасля, вядома, шкадаваць гэтага; гаворка не аб малых памылках ці памылках у разліках, а ў кантактах з людзьмі: можаш ляпнуць штосьці, выявіць сакрэт, быць лішне рэзкім. Пашкадуеш гэтага ўжо пры канцы тыдня!

**(23.11. — 22.12.)** Могуць папсавацца адносіны асабліва з сяброўкамі, бо будзеш пагружаны ў глабальныя справы, займацца сур'ёзнымі пытаннямі, і не будзе табе да драбязы. Наступіць нейкі адрыў ад акружаючых цябе людзей, што канчаткова пойдзе табе ў карысць; цяпер можаш перапрацаваць усе свае справы і вырашыць шмат важных пытанняў.

**(23.12. — 20.01.)** 30.04. уступіць у цябе нейкая касмічная прыцягальная для іншых сіла, перад якой мала хто ўстаіць. Займіся сваімі справамі, хоць хацелася б пусціць іх на самацёк. Настрой святочны, вясенні, ахопіць цябе думкі пра адзінчак, рамантыку, а не паўсядзённыя справы. Таму лепш вырашы бягучыя, неадкладныя справы, а адпачынак пасля будзе на славу.

**(21.01. — 19.02.)** Абвастраца праблемы. Прыйдзецца праўсці мноства выпрабаванняў, іспытаў, з якімі зможаш справіцца, але якія цябе добра выматаюць. Настрой нялёгкі, можа не такі страшны, але і не святочны. Можаш адчуць сябе адзінокім, але, дзякуй Богу, гэта толькі тыдзень!

**(20.02. — 21.03.)** Адчуеш прыток энергіі, актывізуецца твая дзейнасць, што пакажацца найлепш у рабоце. Магчымыя прыбыткі, падарункі. Не плануй нічога несумненага. Будзеш кемлівы і абачлівы, так што ніхто нічога табе не зробіць за тваёй спіной.

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

Тэкст і фота Міры ЛУКШЫ

# Сазонаў ад смеху і одуму

**У Падляшскай ксёнжніцы на Літаратурнай серадзе (18 красавіка) выступіў чарговы аўтар, які піша па-беларуску — Віктар Сазонаў з Гродна, разам са сваім перакладчыкам Марцінам Рэмбачам. Сустрэчу вёў Арнольд Тачыскі. Гаворка была перш за ўсё пра „Занатоўкі кантрабандыста", якія на сталах ваяводскай бібліятэкі апынуліся і ў польскай версіі. Чытачы цікавіліся таксама іншымі кнігамі літаратара, палітычнага дзеяча і праваабаронцы з Гродна. Гадзінная жывая сустрэча перарывалася смехам і воплескамі. Як кажа аўтар, ён і сам любіць смяяцца:**

— Мне вельмі падабаецца: нейкі чалавек прыдумаў гэтыя словы ў фільме пра барона Мюнхаўзена. Ён казаў: „Людзі, часцей смейцеся. Разумны выраз твару — гэта яшчэ не прыкмета розуму. І што самае галоўнае — усе подласці ў свеце рабіліся з разумным выразам твару. Таму часцей смейцеся".

Гэтак пра яго ў скарочаным форме: Віктар Сазонаў, Паўлаў сын. Беларус, праваслаўны, жанаты, мае сына і дачку. Нарадзіўся 18 кастрычніка 1963 года ў мястэчку Гальшаны Ашмянскага раёна Гродзенскай вобласці. Скончыў Гродзенскі дзяржаўны ўніверсітэт імя Янкі Купалы, гісторык. Служыў у паветрана-дэсантных войсках (1981-1983), вайсковая спецыяльнасць — разведчык войскаў спецыяльнага прызначэння. Прайшоў працоўны шлях ад токара на Ашмянскім заводзе да навуковага супрацоўніка Беларускага дзяржаўнага музея гісторыі рэлігіі ў Гародні (1991-1993). Пазней быў прадпрымальнікам. Актыўны ўдзельнік грамадска-палітычнага руху ў Беларусі. Неаднаразова падвяргаўся пераследу і карам. З канца 1980-х гадоў у грамадскім руху. Сябра гісторыка-культурнага клуба „Паходня" — першай недзяржаўнай грамадскай арганізацыі ў Гродне, Таварыства беларускай мовы, Беларускага народнага фронту „Адраджэньне", Беларускай асацыяцыі журналістаў, Грамадскага аб'яднання „Фонд імя Льва Сапегі", адзін з заснавальнікаў Таварыства братоў Каліноўскіх, настаўніцкага згуртавання „Вулей", старшыня Гарадзенскай філіі Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі „Грамада", кіраўнік Гродзенскага аддзялення Праваабарончага цэнтра „Вясна", сябра Саюза беларускіх пісьменнікаў. Як журналіст і літаратар друкаваўся ў розных беларускіх і замежных выданнях („Літаратура і мастацтва", „Ніва", „Новы час", „Дзеяслоў" і іншых), публікаваўся таксама на розных інтэрнэт-сайтах. Свае літаратурныя творы чытаў на хвалях беларускага Радыё Рацыя. Быў галоўным рэдактарам інфармацыйна-аналітычнага бюлетэня „Свой лад" (2002-2004), праваабарончага бюлетэня „Прэзумпцыя", выдаўцом розных бюлетэняў на грамадска-палітычныя і праваабарончыя тэмы, м.інш. серыі адукацыйных брашур „Праз адукацыю — да грамадзянскай супольнасьці" (Шчэцін, 2001-2006). У 25-м і 54-м нумарах часопіса „Дзеяслоў" былі надрукаваны зборнік эсэ „Маленькія гісторыі з вялікай палітыкі" і апавяданне „Залік па ЧэГэДэ".

Чытачам „Нівы" Віктар Сазонаў — актыўны ўдзельнік грамадска-палітычнага руху на Гродзеншчыне і ў Беларусі, пераследаваны ўладамі за сваю дзейнасць — вядомы як фельетаніст з другой старонкі ды Сымон Гальшанскі. Одумны чалавек з вечназменлівай фізіяноміяй блазна, такі наш беларускі Станьчык, не прыдворны-прыкаралеўскі ж. На старонках тыднёвіка беларусаў у Польшчы „Ніва", у блогах, бюлетэнях і іншых друкаваных выданнях і на розных інтэрнэт-сайтах друкаваліся некалькі соцень фельетонаў аналітычнага характару. На старонках „Літаратуры і мастацтва" і ў серыі адукацыйных брашур „Праз адукацыю — да грамадзянскай супольнасьці" быў надрукаваны аналітычна-даследчы матэрыял „Каб не ўмёрлі", які даследаваў адрозненні беларускага моўнага менталітэту ад моўнага менталітэту рускай і іншых моў. У „Ніве" цалкам друкаваліся зборнікі „Занатоўкі кантрабандыста", „Маленькія гісторыі з вялікай палітыкі", „Суседскія былі". У газеце „Новы час" выходзілі апавяданні „Школьны акварыум" і „Паэзія прозы".



Злева: Марцін Рэмбач і Віктар Сазонаў





У Беластоку ў перакладзе на польскую мову выйшла і другая кніга Віктара Сазонава — „Суседскія былі" (па-польску „Bajdy sąsiedzkie"), якая змяшчае цікавыя гісторыі з беларуска-польскага памежжа. На польскую мову абразкі Віктара Сазонава пераклаў Марцін Рэмбач.

Віктар Сазонаў — майстар і размоўнай літаратуры. Гумарыста-расказчыка намовілі да запісаў яго апаведаў сябры. На хвалях Радыё Рацыя ў аўтарскім чытанні ў рубрыцы „Літаратура памежжа" прагучалі зборнікі „Занатоўкі кантрабандыста", „Маленькія гісторыі з вялікай палітыкі", „Суседскія былі", „Апаведы вясёлай шклянкі", „Дзедавы мудрасці".

Зборнік апавяданняў „Занатоўкі кантрабандыста" з поспехам мог бы стаць падручнікам для мытнай службы і Польшчы, і Беларусі! Дасціпныя здарэнні з жыцця кантрабандыстаў, спісаныя з рэальнага жыцця рэальных асоб, смешаць і адначасова змушаюць задумацца над тым да чаго імкнецца большасць жыхароў памежнай зоны. Якія перспектывы маюць у сваім жыцці, якая галоўная мэта і сэнс гэтага жыцця? Чытаючы апавяданні раскрываецца поўня чалавечай дурноты, бездапаможнасці, прымітыўнасці. Людзі, якіх насамрэч, выхоўвалі на найбольш думны народ у свеце, на прадстаўнікоў самай-самай..., найбольш шанаванай краіны (па меншай меры ў іх усприманні), змушаны зарабляць на кавалак хлеба гандлем, які свайго часу быў азнакай няшчырасці, ганьбы, нават здрады. Некаторым героям гэты дробны гандаль на рынках суседняй краіны — сапраўдная пакута, для іншых — сэнс жыцця і адзіная яго форма. Чытаючы апавяданні ловіш сябе на думцы: да чаго дакаціліся? ці маем будучыню? што далей? нашто жыць? дзе сэнс усяго (і жыцця ў тым ліку)?

„Суседскія былі" па-польску выйшлі ў Бібліятэцы беларускага Радыё Рацыя ў серыі „Трансгранічныя сцежкі". „Bajdy sąsiedzkie" перакладзены на польскую мову Марцінам Рэмбачам. У беларускай версіі кніга друкавалася на старонках „Нівы".

— Кніжка складаецца з 30 жартаўлівых аповедаў пра розныя жыццёвыя сітуацыі. Там проста гумар. У мяне была задача ў хмурны час выпусціць настраёвы твор, — прызнаецца аўтар. — У кнізе шмат жыццёвых аповедаў. Прыкладам, маленькія хлопчыкі ездзілі па ваду для хворай бабкі да шаптухі. Бабка давала ім грошы на замовы. Яны куплялі цукеркі, а бабцы прыносілі звычайную ваду. Бабка паправілася і пайшла дзякаваць шаптусе. Якім было здзіўленне: тая нічога не ведала. Ні пра ваду, ні пра грошы. Ці, напрыклад, яшчэ такая гісторыя: паехалі людзі на поўдзень і папрасілі суседа-алкаголіка паглядзець ката. Кот быў пародзісты і еў толькі паляндвіцу. Далі грошы. Сусед грошы прапіў. А кот паеў у хаце ўсіх мух і нават лупіны ад бульбы і сваё гаўно. Цяпер гэты кот рады нават скарынцы хлеба. А раней не ўсякае мяса прызнаваў за яду. Героі кнігі — гарадзенцы і жыхары вёсак. Яны нешта расказвалі мне, а штосьці сам падгледзеў. Дадаў гумару і напісаў з жартаўлівага ракурсу, каб пасмяяцца. Хацелася зрабіць проста настраёвы твор, каб ён чытаўся весела, каб падымаўся настрой, каб усмешка на твары ў чалавека з'яўлялася. Я цалкам перакананы, што польскі чытач гэта таксама зразумее, паколькі ўжо ёсць досвед перакладу маіх твораў на польскую мову, прыкладам, кніга „Занатоўкі кантрабандыста" атрымала вельмі цікавыя водгукі ад людзей, якія чыталі яе па-польску, яны ўсё гэта зразумелі.

„Сандалі мітрапаліта або маленькія гісторыі зь вялікай палітыкі" — так называецца кніга навел Віктара Сазонава, якая выйшла ў выдавецтве „Гарадзенская бібліятэка". Яна тэматычна крыху адрозніваецца ад папярэдняй:

— У гэтай кніжцы іншыя героі, гэта іншая тэматыка, гэта людзі, якія займаюцца на Гарадзеншчыне ды ў іншых месцах палітыкай. Стыль напісання застаецца той жа — гэта такія невялічкія навелкі, пажадана жартаўлівыя, дзе можна ўбачыць кожную гісторыю з жартаўлівага ракурсу...

*Час — адзінае, над чым ніколі не будзе ўладарыць чалавек. Ён цячэ ў прасторы па сваіх, невядомых нам законах, і ніхто не можа вярнуць яго назад. Ні адзін чалавек не здольны патрапіць ні ў мінулае, ні ў будучыню. Хіба толькі ў марах, або ўспамінах. Канец васьмідзесятых і пачатак дзевяностых гадоў дваццатага стагоддзя для беларусаў прынёс вялікія змены. Разваліўся Савецкі Саюз, Рэспубліка Беларусь стала незалежнай суверэннай Дзяржавай. Адчыніліся яшчэ нядаўна замкнутыя на сем замкоў межы. Знік страх. Паветра напоўнілася вольнасцю, рамантызмам і надзеямі. Узнікла невядомае дагэтуль заманлівае пачуццё — ты можаш нешта зрабіць сам, нават здольны змяніць сваё жыццё. І не толькі сваё... Такі прыйшоў час. Для гродзенцаў, якія жывуць у непасрэднай блізкасці з заходняй мяжой, гэты час прынёс і свае эканамічныя перспектывы. Многія людзі марылі адчыніць фірмы, стаць бізнесоўцамі, будаваць будучыню сабе, сваім дзецям і сваёй Краіне.* (Віктар Сазонаў)

ISSN 0546-1960